PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 43 (2267) Год XLIV Беласток 24 кастрычніка 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Плаці і маўчы

Яўген Міранові́ч

У адной з песень з рэпертуару кабарэ Ольгі Ліпінскай, які 9 верасня г.г. паказваўся па І праграме польскага тэлебачання, гаварылася, што камуністы, будучы пры ўладзе, кралі, але штосьці там пакідалі і для люду. Сёння кіруючыя дзяржавай нацыянал-дэмакраты і лібералы такімі ласкавымі для народа ўжо не з'яўляюцца. Тое ж можна сказаць і пра сацыял-дэмакратаў, і пэсэлаўцаў, якія раней чатыры гады кіравалі дзяржавай. Вялікія палітычныя клікі, спасылаючыся на волю люду, змагаюцца за вялікія грошы. Аказваецца, Польшча была даволі багатай краінай, таму што да гэтай пары, калі не хапала фінансавых сродкаў, урад прадаваў замежнаму капіталу частку дзяржаўнай маёмасці і ўсё вярталася да нормы. Зразумела, што група, якая прадавала маёмасць, ніколі не адводзіла ў бюджэт усіх грошай, якія выкладалі замежныя фірмы. Аднак афёры, пра якія шырока пісала прэса, найчасцей пакрывала заслона маўчання. Да гэтай пары яшчэ ніхто не даказаў, што ў Польшчы ёсць хаця б адзін карумпаваны ўраднік.

Палітычны лагер, які ў мінулым годзе прыйшоў да ўлады, пацягнуў за сабою дзесяткі тысяч прагных уплываў актывістаў. Дзеля іх патрэб былі праведзены г.зв. рэформы, якія ўчынілі кашмарным жыццё хворых людзей. З'явіліся дзесяткі тысяч новых радных і самаўрадавых чыноўнікаў, якія назначылі сабе высокую плату, быццам бы ўпраўлялі заваяванай краінай. Удвая павялічылася школьная адміністрацыя, а г.зв. „касы хворых" сталі крыніцай прыбытку для чарговай групы новай шляхты.

Аказалася, аднак, што ўсяго гэтага не вытрымаў дзяржаўны бюджэт. Грошай ужо не хапае на нішто. У школах, шпіталях, культурных установах дырэктары роспачна заяўляюць пра задоўжанасць, а Міністэрства фінансаў патрэбныя бюджэтнай сферы сродкі адводзіць з парумесячным спазненнем. Толькі ў тэлебачанні, быццам бы падчас панавання Эдварда Герка, пераконваюць грамадзян, што ўсё ідзе ў добрым напрамку. Ад новага года маюць быць нават меншыя падаткі. Не інфармуюць толькі, што тыя падаткі паніжаюцца выключна багатым, гэта абазначае — сабе. Нармальны грамадзянін вымушаны будзе плаціць нашмат вышэйшы падатак прыхаваны ў цане хлеба, вады, электрычнасці, ацяплення, ва ўсім, што звязана з яго штодзённым жыццём.

Пару гадоў кіруючыя кланы памяншвалі сабе падаткі фіктыўнымі даравальнымі запісамі, стыпендыямі і ўсялякімі дробязямі, якія былі запісаны ў падатковым законе. Хутка аднак зліквідавалі гэтыя льготы, калі падатковае заканадаўства стала ўсім вядомым і пачалі

[працяг ☞ 10]



*Вучні класа І „а" са сваёй настаўніцай Мар'яй Фалькоўскай.*

## У свядомасці бяльшчан мы — „беларусы"

Аляксей Мароз

— Мы ведаем, дзе мы жывем. Мы жывем у Бельску-Падляшскім, дзе частка грамадства хоча вучыцца беларускай мове. Мала хто адрознівае „тройку" ад белліцэя, а ў свядомасці бяльшчан за нашай школай замацавалася назва „беларусы", — кажа Васіль Ляшчынскі, дырэктар Падставовай школы н-р 3 і заадно Публічнай гімназіі н-р 3 у Бельску-Падляшскім. — Людзі гавораць: „у «беларусах» вучыўся, у «беларусах» працуе". Усе бацькі, якія пасылаюць дзяцей у нашу школу, разлічваюць, што пазней яны будуць вучыцца ў белліцэі.

**Ці паўстане комплекс беларусіх школ?**

Задума стварыць комплекс школ, у састаў якога ўвайшлі б белліцэй і падставовая школа паявілася ўжо даўно. Больш канкрэтна пра комплекс загаварылі вясною гэтага года. Цяпер у комплекс трэба ўключыць яшчэ гімназію. Для гэтага неабходнае пагадненне паміж уладамі горада і павета, які фінансуе белліцэй.

— Восенню думаем правесці ў сябе размовы і калі будзе згода ўсіх бакоў мы, як дырэкцыі падставовай школы і гімназіі, нашы рады настаўнікаў і рады бацькоў, выступім з гэтай ідэяй да нашых гарадскіх улад, — гаворыць дырэктар Васіль Ляшчынскі. — Ад 1944 да 1965 года была адна школа і толькі ў 1965 годзе падзялілі нас на падставовую школу і ліцэй, але ў свядомасці бяльшчан і жыхароў цяперашняга павета — беларусаў і палякаў — засталіся мы як адна беларуская школа. Нават улады павета і радныя клуба „Еднасць" спачатку не былі зарыентаваны, што ў нас дзве школы. Калі б не спалучыць школ і адну перанесці ў іншы будынак, была б бяда. Маглі б мы страціць многа кандыдатаў, бо бацькі прысылаюць дзяцей у „тройку" таму, каб пасля працягвалі навуку ў белліцэі. 70% нашых абітурыентаў паступае ў беларускі ліцэй. На спалучэнні школ скарысталі б мы арганізацыйна і фінансава. Лепш можна было б выкарыстаць прадметныя кабінеты, была б адна канцылярыя, адзін бухгалтар, быў бы адзін бюджэт і лепш можна было б выкарыстаць працу адміністрацыі. Не трэба было б таксама ўвальняць настаўнікаў у ліцэі, які неўзабаве стане трохгадовым. Маглі б яны працаваць у малодшых класах.

— Вельмі добра было б спалучыць нашы школы, аб чым я і раней гаварыла, — заявіла дырэктар белліцэя Зінаіда Навіцкая. — У нас жа адна маёмасць, а і для дыдактычнага працэсу спалучэнне было б карысным. Калі б аб'яднаць абедзве школы, вучылася б у іх каля 1 330 вучняў і працавала б больш за 100 настаўнікаў. Была б гэта самая вялікая школа ў Бельску-Падляшскім.

**Самыя вялікія змены — у пачатковых школах**

На практыцы найбольшыя змены, выкліканыя рэформай, у класах І-ІІІ, у якіх вядзецца інтэграванае навучанне.

— Інтэграванага навучання яшчэ ўсе мы вучымся, штораз больш з ім звыкаемся і штораз больш яно нам падабаецца, — кажа Мар'я Фалькоўская, настаўніца І „а" класа. — Наймалодшым вучням лягчэй цяпер перайсці ад прадшкольнага навучання да школьнага, бо ў час заняткаў няма падзелу на ўрокі, многа гульняў і самі арганізуем перапынкі.

[працяг ☞ 3]

## Беларусам надакучыла цярпець

Дзесяткі тысяч людзей прыняло ўдзел у мітынгу і шэсці апазіцыі ў Мінску 17 кастрычніка. Марш свабоды скончыўся жорсткай бойкай з міліцыяй. Акцыя паказала мужнасць і гатоўнасць змагацца за Радзіму беларускай моладзі і крывадушнасць уладаў.

[болей ☞ 2]

## Як дапамагчы ахоўваць Белавежскую пушчу

Гайнаўскі магістрат наведалі прадстаўнікі ўрада Даніі, якія на ахову Белавежскай пушчы прызначылі 4,5 млн. зл. Конкурс на рэалізацыю дапамогі пушчы выйграла датскае прадпрыемства „Кові", якое ў Польшчы адкрыла свой офіс і будзе наглядаць за выкарыстаннем сродкаў. Аднак, 50% прызначаных грошай паглыне дзейнасць датскага офіса.

[самадапамога ☞ 3]

## Расійская эліта аб саюзе з Беларуссю

Узнікала і такое пытанне: калі Расія і Беларусь аб'ядноюцца як раўнапраўныя партнёры, то які будзе статус рэспублік, якія цяпер уваходзяць у састаў Расійскай Федэрацыі. Чым яны, уласна кажучы, горшыя за Беларусь? Нядзіўна таму, што прэзідэнт Татарыі Мінцімер Шаймієў неадночы заяўляў, што калі паміж Расіяй і Беларуссю будзе заключаны раўнапраўны Саюз, то ён паставіць пытанне аб далучэнні да яго Татарыі — у тым жа статусе.

[палітыка ☞ 4]

## Выстава пад знакам вялікай рыбы

16 верасня ў Расійскім доме навукі і культуры ў Гданьску Генеральны консул Рэспублікі Беларусь Міхал Аляксейчык адкрыў выставу прац беларускіх мастакоў — Валянціны Сідаравай, Уладзіміра Зінкевіча (сужонства) і Віктара Альшэўскага. Разам мастакі паказалі 30 сваіх карцін.

[вернісаж ☞ 8]

## Эх, дарогі...

Аказваецца, што „роўныя і раўнейшыя" могуць праявіцца нават і **ў дарожных справах**, хаця што тут граха таіць, як у дарогах, так і ў адукацыі сялян, ды і ў іншых прыярытэтах — усё зводзіцца да грошай. А грошы найчасцей прызначаюцца сеймікам Падляшскага ваяводства менавіта „раўнейшым", бо проста іх у сейміку большасць.

[самаўрад ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Карта ў перадвыбарчай ігры

Ад падпісання першага аб'яднаўчага дагавора паміж Расіяй і Беларуссю прайшлі ўжо тры гады. І хаця з гэтага моманту прымаліся яшчэ іншыя дагаворы, дэкларацыі і ўставы, аднак працэс яднання краін на практыцы па-за рамкі дакументаў не выйшаў. Завяршаючай фазай яднання мела быць апублікаванне 1 кастрычніка г.г. для ўсенароднага абмеркавання праекта новага Саюзнага дагавора, які ў канцы з'явіўся ў друку тыдзень пазней з прычыны незадавальнення беларускага боку. Напярэдадні першага тэрміну Аляксандр Лукашэнка моцна пакрытыкаваў прапанаваны Расіяй праект, заўважыўшы, што „практычна ён нічым не адрозніваецца ад таго, які дзейнічае цяпер". Аляксандр Рыгоравіч сказаў яшчэ наступнае: „Там толькі замянілі «Вышэйшы Савет Саюза» на «Дзяржаўны» і так далей. Што ад гэтага зменіцца? Сорамна сёння гаварыць, але гэты дагавор па сваёй сутнасці не адпавядае сваёй назве. Аб чым далей можна гаварыць? Гэта пасмешышча а не дагавор". І хаця два дні пазней Аляксандр Лукашэнка тлумачыўся, што журналісты няправільна яго зразумелі і што ён гатовы далей працаваць над праектам дагавора, відаць, у Масквы засталіся непрыемныя ўражанні, бо 5 кастрычніка ў Мінск прыляцеў міністр па справах СНД Леанід Драчэўскі, каб урэгуляваць скандал.

Па словах расійскага міністра, усе справы наконт дагавора былі з беларускім бокам узгоднены, а дакумент можа быць ратыфікаваны да канца года. Аднак беларускі бок задавальнення ад вынікаў візіту Драчэўскага не выказаў. Прэм'ер Сяргей Лінг прыгадаў, што для аб'яднання неабходная адзіная эканамічная прастора. І хаця адпаведны дакумент Аляксандр Лукашэнка падпісаў яшчэ ў мінулым годзе, ажыццявіць яго не ўдалося і Беларусі далей прыходзіцца, напрыклад, плаціць 40 долараў за кубаметр газу, калі ў Расіі каштуе ён усяго 14 долараў. У запавольванні аб'яднаўчага працэсу абвінавацію Расію ў тэлевізійным выступленні Сяргей Касцян — намеснік старшыні камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД лукашэнкаўскага парламента. Візіт Драчэўскага ў Мінск назваў ён спробай Крамля „затянуть время" ў справе стварэння саюзнай дзяржавы. Паводле яго, „празаходнія, праамерыканскія сілы ў акружэнні прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына, якія не зацікаўлены ў падпісанні гэтага дагавора, робяць усё магчымае, каб замарудзіць справу напярэдадні выбараў у Дзяржduму". Сяргей Касцян упэўнены, што правыя ў Расіі „гуляюць Саюзам як козырнай картай, каб заваяваць большасць у Думе".

Візіт міністра па справах СНД у Мінск, які не прымае рашэнняў, а толькі слухае прапановы і прымае іх да ведама, ды публікацыя 8 кастрычніка расійскага варыянта праекта Саюзнага дагавора для ўсенароднага абмеркавання грамадзянамі абедзвюх краін паказваюць, што Масква, якая па эканамічных прычынах не спяшаецца аб'ядноўвацца з Беларуссю, па палітычных меркаваннях не зацікаўлена ў разрыве адносін з Мінскам, асабліва ў перадвыбарчы перыяд. Яна поўнасцю кантралюе сітуацыю і можа дазволіць сабе ігнараваць непрыхільныя каментары, якія, як пішуць расійскія газеты, у „радыкальна хамскай і катэгарычнай манеры" выказваюць беларускія палітыкі.

**Віталь Луба**

*(Пра стаўленне расійскай палітычнай эліты да пытання аб саюзе з Беларуссю чытайце яшчэ на стар. 4).*

## Традыцыі Грамады аднаўляюцца

З назвай „Грамада" звязана шмат падзей у беларускім нацыянальна-вызвольным руху XX стагоддзя. Асабліва гэта датычыць Заходняй Беларусі. Таму знамянальна, што адной з самых актыўных суполак, аднаўленай пасля расколу 1996 года Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, з'яўляецца гродзенская філія партыі.

— Мы лічым сябе спадкаемцамі і пераемнікамі Грамады, якая існавала ў Беларусі ў першай палове стагоддзя, — кажа старшыня гродзенскіх грамадоўцаў Віктар Сазонаў. — Тая гістарычная партыя таксама ставіла перш за ўсё нацыянальныя і сацыяльныя пытанні. Мы грунтуемся на еўрапейскай культуры і хрысціянскай ідэалогіі. Намінальна БСДГ — цэнтрысцкая партыя, але фактычна, разам з БНФ, Грамада знаходзіцца на правым флангу беларускай палітычнай сцэны.

Віктар Сазонаў быў абраны старшынёю гродзенскай філіі Грамады на справаздачна-выбарчым сходзе арганізацыі 7 кастрычніка. Менавіта год таму адбыўся першы сход гродзенскай БСДГ як юрыдычна зарэгістраванай арганізацыі. З таго часу на рахунку Грамады шмат спраў, што мелі розгалас, як на Гродзеншчыне, так і па ўсёй Беларусі. Гэта мітынгі, пікеты, навуковыя канферэнцыі. Але адной з галоўных задач Грамада лічыць працу з моладдзю. Калі ўлічыць, што большасць сённяшняга грамадоўскага актыву стаяла ля вытокаў знакамітай „Паходні", а пасля гродзенскага БНФ і мае вопыт палітычнай дзейнасці, сумесная праца з маладым пакаленнем дае новай Грамадзе добрыя перспектывы на будучыню. **(зк)**

## Кампенсацыя пасольству ЗША

Беларусь выплаціць ЗША 119,5 тыс. долараў у якасці кампенсацыі за тое, што амерыканскае пасольства было прымушана спыніць арэнду будынка на тэрыторыі прэзідэнцкай рэзідэнцыі „Дразды". Адпаведнае рашэнне ў гэтай справе прыняў Савет Міністраў Беларусі.

Як паведамілі „Інтэрфаксу" ва ўрадзе рэспублікі ў панядзелак 5 кастрычніка, выплата будзе зроблена за кошт сродкаў, прадугледжаных у рэспубліканскім бюджэце на фінансаванне міжнароднай дзейнасці.

*www.open.by — 6.10.1999*

## Беларусам надакучыла цярпець

Дзесяткі тысяч людзей прыняло ўдзел у мітынгу і шэсці апазіцыі ў Мінску 17 кастрычніка. Марш свабоды скончыўся жорсткай бойкай з міліцыяй. Акцыя паказала мужнасць і гатоўнасць змагацца за Радзіму беларускай моладзі і крывадушнасць уладаў.

Напярэдадні апошнія намагаліся зрабіць усё, каб акцыя апазіцыі не адбылася. Шэсце было забаронена. Пад прыдзеннем мітынгу гарвыканкам выдзеліў плошчу Бангалор, якая больш нагадвае невялікі сквер. Тэрмінова пачаўся рамонт некаторых вуліц Мінска. Па радыё і тэлебачанні людзей заклікалі не прымаць удзел у апазіцыйных мерапрыемствах.

Аднак апоўдні 17 кастрычніка на плошчы Якуба Коласа сабралася больш 20 тысяч чалавек пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Адразу ж з'явіліся міліцэйскія радыёмашыны і праз гукаўзмацняльнікі людзей сталі папярэджваць пра адміністрацыйную і крымінальную адказнасць за ўдзел у несанкцыянаваным шэсці. Але на запалохванні ніхто ўвагі не звяртаў і, згуртаваўшыся ў калону, маніфестанты рушылі па цэнтральных вуліцах горада да плошчы Бангалор. На перадзе шэсця некалькімі шчыльнымі радамі выстраіліся маладыя хлопцы з хусткамі на тварах. (Усе мерапрыемствы апазіцыі здымаюцца на відэакамеры міліцыяй. Пасля па здымках вышукваюцца і арыштоўваюцца актыўныя ўдзельнікі). Скандуючы антылукашэнкаўскія і антырасійскія лозунгі калона прайшла да дазволенага ўладамі месца правядзення мітынгу. Міліцыя не перашкаджала шэсцю. Аднак спрабавалі дзейнічаць правакатары „ў штацкім". Некалькі коратка стрыжаных маладых мужчын пачалі чапляцца да старэйшых векам удзельнікаў шэсця і пагражаць ім. З першых радоў калоны аддзялілася група хлопцаў і неўзабаве ваяўнічы пыл правакатараў сціх, а адзін з іх быў добра збіты.

На плошчы Бангалор да ўдзельнікаў Маршу свабоды далучылася яшчэ некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. Мітынг быў надзвычай нядоўгім. З кароткімі прамовамі выступілі яго арганізатары. Анатоль Лябедзька паведаміў, што толькі вярнуўся з Берліна, дзе прымаў удзел у сустрэчы з парламентарыямі 43 краін, якія выказалі салідарнасць з беларускім народам. Зміцер Бандарэнка падзякаваў прадпрымальнікам, якія баставалі 17 кастрычніка і прыйшлі на мітынг. Вінцук Вячорка расказаў пра спробы апазіцыі дасягнуць паразуменне з уладай за сталом перамоваў. Аднак, па словах выступоўца, калі ў краіне знікаюць людзі, у турмах сядзяць палітычныя зняволеныя, закрываюцца незалежныя газеты, а Лукашэнка намагаецца прадаць Беларусь Расіі размовы з уладай немагчымы. Тут жа „ў рамках усенароднага абмеркавання", пад воплескі сабраўшыхся, былі спалены праект дамовы пра аб'яднанне Беларусі і Расіі. Мікола Статкевіч сказаў, што рэжым Лукашэнкі пазбавіў беларускі народ магчымасці нармальна працаваць і прыстойна жыць. Алесь Бяляцкі зачытаў рэзалюцыю, у якой былі патрабаванні да ўлад вызваліць палітычных вязняў і спыніць дагаворны працэс па аб'яднанню з Расіяй.

Пасля арганізатары мітынгу заклікалі людзей прайсці на плошчу Незалежнасці. Сярод людзей пачуліся словы: „Навошта на плошчу? Што пасля? Калі ісці дык да турмы вызваляць палітзняволеных". Аднак даверыўшыся арганізатарам, каля 30 тысяч, пераважна маладых людзей, рушыла ў цэнтр Мінска. На перадзе зноў ішлі хлопцы з хусткамі на тварах, за імі разгарнуўся дзесяціметровы бел-чырвона-белы сцяг. Трохі далей маніфестанты неслі такі ж сцяг Еўрапейскага Саюза.

На выхадзе да праспекта Скарыны дэманстрацыю сустрэў міліцэйскі кардон. Першыя шэрагі калоны рашуча павярнулі на праспект. Аднак Мікола Статкевіч запатрабаваў ісці іншым шляхам. Людзі разгубіліся. Арганізаваная калона распалася. Толькі праз некалькі хвілін шэсце зноў зарганізавалася і маніфестанты пайшлі за Статкевічам, але іх шэрагі значна парадзелі. Да вуліцы Першамайскай, дзе пачаліся сутычкі з міліцыяй, дайшло каля 10 тысяч чалавек.

Міліцэйскае начальства спачатку выставіла супраць шматтысячнага натоўпу з дзесятак міліцыянераў. Вузкая вуліца была перагароджана трыма легкавымі машынамі. Склалася ўражанне, што вышэйшыя чыны вырашылі падставіць некалькіх сяржантаў як ахвяр, каб пасля казаць пра „крыважэрных апазіцыянераў". Спачатку з міліцыянерамі спрабавалі дамовіцца аб беспераішкодным праходзе, але яны кінуліся ў бойку. Больш разважлівым дэманстрантам прыйшлося ратаваць іх ад гарачых хлопцаў. Але ўсё ж ахоўнікам правапарадку вельмі моцна дасталося. Вуліца Першамайская перасякаецца рэчкай Свіслаччу. На мосце праз яе ўлады выставілі трамвай, у які пасадзілі адну маладзенькую дзяўчыну — кіроўцу. На другім беразе пачалі выстройвацца шэрагі амапаўцаў, спецназаўцаў і вайскоўцаў. Частка дэманстрантаў засталася на месцы першай сутычкі з міліцыяй, а каля двух тысяч хлопцаў пайшло на мост. Праз некалькі хвілін маўклівага супрацьстаяння, дэманстранты пачалі адыходзіць назад. У гэты момант на іх напалі амапаўцы. Пачалася бойка. Такога супрацьдзеяння міліцыя ў Мінску яшчэ не адчувала. Стаяў страшэнны грукат ад удараў камянёў і цаглінаў аб амапаўскія шчыты. Не раз міліцыянтам прыходзілася ўцякаць. Яны нават пусцілі на дэманстрантаў трамвай, прыкрываючыся за яго. Тут распаленыя бойкай хлопцы паказалі сваю арганізаванасць і вытрымку. Ніхто не крануў вадзіцеля трамвая, бо разумелі, што гэта чарговая правакацыя ўлад. Манеўр міліцыі не распалохаў іх праціўнікаў. Бойка працягвалася яшчэ некалькі хвілін.

Пасля ахоўнікі рэжыму заняліся больш звыклай для сябе справай, быў ачэплены раён сутычкі і пачаўся „хапун".

Па паліцэйскіх звестках затрымана 96 чалавек, але па неафіцыйных даных арыштавана было 220 людзей, 6 з іх знаходзіцца ў шпіталі. Супраць 3 узбуджана крымінальная справа. Арыштаваны Мікола Статкевіч. Іншыя арганізатары Маршу свабоды перайшлі на нелегальнае становішча і расшукваюцца міліцыяй.

Па даных Міністэрства ўнутраных спраў траўмы атрымалі 47 міліцыянераў, 9 з іх памешчаны ў шпіталь, 4 ў цяжкім стане.

Наступную акцыю пратэсту супраць рэжыму Лукашэнкі і аб'яднання з Расіяй апазіцыя плануе правесці 31 кастрычніка.

**Зміцер Кісель**

# Магчымасці сельскай гаспадаркі

Пасля рэзкага пагаршэння кан'юнктуры ў пачатку 90-х гадоў сітуацыя ў сельскай гаспадарцы ў пэўнай ступені стабілізавалася. Аднак умовы, якія скλаліся пачынаючы з 1992 года, перакрэсліваюць магчымасці прыстасавання большасці гаспадарак у Польшчы да ўмоў, якія існуюць у Еўрапейскім Саюзе. Паводле Інстытута эканомікі сельскай гаспадаркі і харчавання, перспектывы развіцця маюць добра кіраваныя гаспадаркі. Стратэгію ўмелага спалучэння ўсіх фактараў сельгасвытворчасці (зямлі, працы і капіталу) могуць стварыць гаспадаркі, якія выпускаюць інтэнсіўную прадукцыю, хаця карыстаюцца невялікім арэалам зямлі, напрыклад, птушкафермы ці цяпліцы для вырошчвання грыбоў, а таксама экстэнсіўныя гаспадаркі.

Аб магчымасцях для сельскай гаспадаркі ў Арлянскай гміне ішла гутарка на сесіі Гміннай рады 30 верасня г.г. Радны Бельскага павета Мікалай Кадлубоўскі, а заадно садавод з Рыгораўцаў, даказваў, што ў нас існуюць ідэальныя ўмовы для экалагічнай сельгасвытворчасці, паколькі прымяненне хімікатаў на тэрыторыі гміны знізілася да мінімуму.

— У Польшчы прымяняецца 0,6 кг штучных угнаенняў на гектар, а на Захадзе — каля 7 кг, — тлумачыў радным і солтысам Мікалай Кадлубоўскі. — Таму нашы бульба і хлеб маюць іншы смак. Таксама мясныя вырабы ў нас больш якасныя, бо сяляне гадуюць свіней на натуральным корме.

Павятовы радны падкрэсліў, што дапамагчы сялянам выкарыстаць існуючыя магчымасці павінны сельскагаспадарчыя арганізацыі і адміністрацыя. Аднак у бельскім старастве да гэтай пары ніхто сельскай гаспадаркай не займаўся і толькі цяпер будзе назначаны адзін чыноўнік па сельскагаспадарчых справах.

Пра экалагічныя гаспадаркі гаварыў на сесіі Лукаш Слюка — дэлегат Беластоцкай сельскагаспадарчай палаты ад Арлянскай гміны. Паводле яго, статус экалагічнай гаспадаркі можна атрымаць на працягу трох гадоў (кожны год гаспадарка правяраецца камісіяй). У Падляшскім ваяводстве існуе 6 такіх гаспадарак, а 4 дабіваюцца такога статусу. У Бранскай гміне селянін на 20 гектарах трымае 12 кароў. І хаця не прымяняе ён хімікатаў, прадукцыйнасць ягонай гаспадаркі не зменшылася. Аднак на айчынным рынку зацікаўленне здаровымі харчамі малое, а на Захадзе яшчэ нам не давяраюць.

— А якія перспектывы ў сялян Арлянскай гміны? — папыталі ў дэлегата сабраныя.

— Лічу, што без капіталаўкладанняў найлепш было б на ста гектарах трымаць сто штук кароў.

Інфармацыі і адказ дэлегата Сельскагаспадарчай палаты выклікалі скептычныя ўсмешкі сабраных.

**Міхал Мінцэвіч**

*Рэпрадукцыя аўтара*



*Карціна Анатоля Краўчука з Крывой.*

# Шафёры перамаглі

Ад пратэсту шафёраў на дарожным пераходзе ў Полаўцах мінула больш за чатыры месяцы (чытай: „З вялікай хмары..." — „Ніва" н-р 27 ад 4 ліпеня г.г.). Калі мясцовае грамадства падтрымлівала шафёраў у іх патрабаваннях адмяніць дзесяцідоларавы экалагічны збор на беларускім баку, чыноўнікі ў Чаромхаўскай гміне з усмешкай гаварылі: „Такая стаўка абавязвае на ўсіх дарожных пераходах паміж Рэспублікай Беларусь і Польшчай. Гэта рашэнне брэсцкіх дэпутатаў і толькі яны зараз кампетэнтныя адмяніць свой загад".

З тадышняй размовы ў гміне (а было гэта ў маі г.г.) я зразумеў, што мясцовы самаўрад адмоўна ставіцца да ўдзельнікаў пратэсту. Ды і ніхто не верыў у поспех пратэстуючых. Аднак ад 30 верасня г.г. беларускі бок на дарожным пераходзе Пяшчатка — Полаўцы плату на экалогію ні ад сваіх, ні ад польскіх турыстаў не патрабуе.

Цяжка сказаць, што паўплывала на адмену экалагічнага збору на беларускім баку.

— Напэўна неяк паўплываў пратэст шафёраў і зварот у гэтай справе нашага консула ў Брэсце, — гаварыў войт Чаромхаўскай гміны. — Аднак, я лічу, што гэта часовы загад.

Інакш каментаваўся гэты факт на чаромхаўскім рыначку наступнай раніцы, пасля афіцыйнага паведамлення беларускага боку (значыцца, 1 кастрычніка).

— Мы перамаглі ў сваёй слушнай справе, — гаварыў М. Г. — Да нас чатыры разы прыязджаў консул з Брэста і мы разлічвалі на паспяховы вынік свайго пратэста.

Адмена платы на экалогію на беларускім баку напэўна паўплывае на павялічэнне ліку перасякаючых граніцу польскіх турыстаў. Тое, што мне вядома, гэтай „дабрадзейнасцю" пакарыстаюцца адзінкі, якія займаюцца перавозкай паліва (бензіну і саляркі) з Беларусі. Але вырашэнне гэтай праблемы няхай застанецца справай пагранічных службаў абедзвюх краін.

Экалагічны збор на польскім баку застаецца той жа — 4 зл. Як да гэтага адносіцца шафёры перасякаючыя граніцу на дарожным пераходзе ў Полаўцах — Пяшчатцы, пакажа час.

На маю думку, стаўка 4 зл. на польскім баку не павінна выклікаць ніякіх прэтэнзій у шафёраў, паколькі гэтыя грошы сапраўды неабходныя мясцоваму самаўраду на грамадскія мэты.

**Уладзімір Сідарук**

# У свядомасці бяльшчан мы — „беларусы"

[1 ☞ працяг]

— Перад усім развіваем мову і знаёмім наймалодшых з беларускімі словамі. Дэкламуем беларускія вершыкі, спяваем песні, а калі малюем — таксама знаёмлю з беларускімі словамі. Інтэграванае навучанне беларускай мовы кансультую з настаўнікам-выхавацелем. Калі вучні па-польску гавораць пра восень, мы робім тое ж самае, — гаворыць Аліна Ваўранюк, настаўніца беларускай мовы ў І „а" класе. — Беларуская мова ў першым класе ў „тройцы" толькі ў гэтым годзе ўведзена і няма яшчэ падручнікаў.

— У наймалодшых класах пра поспехі на ўроках беларускай мовы будзем інфармаваць бацькоў, карыстаючыся не ацэнкамі, а апісаннем працы вучняў і іх умеласцей. Эмацыянальнай слоўнай ацэнкай карыстаемся таксама звяртаючыся і да вучняў, — пра працу з наймалодшымі вучнямі гаворыць настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч.

— Ідзе да таго, што ацэнкай не будзе лічба, а слова. На прыкладзе першых класаў бачу, што бацькі гэтую змену ўспрымаюць адмоўна, хацелі б, каб ацэньваць дзяцей па-старому, — тлумачыць дырэктар Васіль Ляшчынскі.

**Школы не падрыхтаваны да праграмнай рэформы**

— Школы не падрыхтаваны да праграмных змяненняў. Міністэрства не арганізавала курсаў для настаўнікаў, якія рыхтавалі б іх да працы ў блокавай сістэме навучання ў класах IV-VI. Няма таксама грошай на новыя дапаможнікі і ўкамплектаванне прадметных кабінетаў. Беларускую мову нельга раўняць з іншымі прадметамі, бо там толькі такія дапаможнікі, якія настаўнікі самі зробяць, — дае сваю ацэнку дырэктар Васіль Ляшчынскі.

Блокавае навучанне ў бельскай „тройцы" вядзецца толькі ў IV класе, дзе ў склад блока „прырода" ўваходзяць былыя геаграфія і біялогія. У выпадку іншых прадметаў і старэйшых класаў засталася прадметная вучоба.

— Інтэграванае навучанне на занятках беларускай мовы было ў мяне ўжо і раней. З вучобай роднай мовы спалучаю элементы геаграфіі, гісторыі, гаворым пра сучасную беларускую культуру і яе сувязі з польскай, а ў старэйшых класах прапаную штораз больш рэгіянальнага навучання. Шырэй знаёмлю з гісторыяй Бельшчыны і Беласточчыны, многа матэрыялу бяру таксама пра бежанства, а ўрокаў не раздзяляю на граматыку і літаратуру, — расказвае Валянціна Бабулевіч. — Новых праграм па беларускай мове няма і на падставе праграмных асноваў кожны настаўнік сам рыхтуе сабе праграму, а да V і VI класаў можна сказаць, што няма і падручнікаў, бо тыя, якія ёсць — вельмі старыя і неактуальныя.

— Па іншых прадметах праграмы і падручнікі стварыліся многімі спецыялістамі-прафесіяналамі, а не чуў я, каб у падрыхтоўку новых праграм навучання па беларускай мове ўключыліся Варшаўскі ці Беластоцкі універсітэты. А без дапамогі прафесіяналаў добрых праграм і падручнікаў настаўнікі не створаць, — тлумачыць дырэктар Васіль Ляшчынскі. — Нашы настаўнікі беларускай мовы на грамадскіх пачатках рыхтуюць вучняў да тэатральнага, дэкламатарскага ці прадметнага конкурсаў. У нашай школе працавалі тры дэкламатарскія, дзве тэатральныя групы і вакальны калектыў „Журавінка".

**Стварэнне гімназіі вучні не адчулі**

— Вучні вучацца ў тых самых кабінетах, што і раней, тыя ж самыя ў іх настаўнікі. Можна сказаць, што гімназія — гэта „тройка-біс", — заяўляе дырэктар. — Ёсць грошы на ўтрыманне школы і зарплаты для настаўнікаў, але няма на дапаможнікі і мэблю, хаця б у гімназію.

— Вучобу ў гімназіі таксама трэба інтэграваць, бо апрача нашых вучняў прыйшла моладзь з іншых бельскіх школ, якая ўвогуле не ведае беларускай мовы і вучобу з імі трэба пачынаць ад знаёмства з беларускім алфавітам, — гаворыць Яраслаў Падолец, настаўнік беларускай мовы ў гімназіі.

— У праграмных асновах па беларускай мове ў гімназіі рэкамендуецца, каб настаўнікі больш увагі адводзілі добраму разуменню пройдзенага матэрыялу, а не на вывучэнне яго, — кажа настаўніца гімназіі і метадыст па беларускай мове Тамара Русачык. — Важна таксама рэалізаваць адукацыйныя сцежкі — экалагічную, жыцця ў грамадстве, рэлігійную ці медыяльную.

— У нас па беларускай мове толькі IV класы ідуць паводле крыху навейшай праграмы, — заяўляе настаўніца беларускай мовы ў белліцэі Зінаіда Дзямянюк. — Сталі мы больш гаварыць пра гісторыю, сучасную і эміграцыйную беларускую літаратуру.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# Як дапамагаюць ахоўваць Белавежскую пушчу

У час вераснёўскага пасяджэння Гарадской рады ў Гайнаўцы радных і прысутных гасцей зацікавіла інфармацыя аб прапанаванай урадамі Даніі і Галандыі дапамозе для пушчанскіх і прыпушчанскіх мясцовасцей. З гэтай мэтай Гайнаўку і суседнія мясцовасці наведаў прадстаўнік урада Галандыі. Шукаў ён адказу на пытанне як дапамагчы ў ахове Белавежскай пушчы. У Гайнаўцы неабходнай справай з'яўляецца мадэрнізацыя вугальных кацельняў, разбудова каналізацыі і будова новай звалкі. Пасля Гайнаўскі магістрат наведалі прадстаўнікі ўрада Даніі, якія на ахову Белавежскай пушчы гатовы прызначыць 4,5 мільёна злотых. У конкурсе на рэалізацыю дапамогі Белавежскай пушчы выйграла дацкае прадпрыемства „Кові", якое ў Польшчы адкрыла свой офіс і будзе наглядаць за выкарыстаннем сродкаў. З 4,5 мільёна злотых 600 тысяч злотых прадугледжана на адукацыйную дзейнасць у галіне аховы асяроддзя і 700 тыс. зл. — на ўспамогу невялікім прадпрыемствам і арганізацыю агратурыстычнай дзейнасці.

— Выказалі мы сваё незадавальненне такой формай дапамогі, паколькі, як заяўляюць самі фундатары, 50% грошай паглыне дзейнасць дацкага офіса. Мы хацелі б, каб уся дапамога трапіла на канкрэтныя інвестыцыі, якія маглі б пасадзейнічаць ахове асяроддзя, — заявіў бурмістр Анатоль Ахрыцюк.

Пра памеры дапамогі з Галандыі нічога яшчэ невядома.

**Аляксей Мароз**

# Расійская палітычная эліта аб саюзе з Беларуссю

Аб'яднанне з Беларуссю даўно выклікала разнародныя меркаванні, прапановы і пярэчанні. Сцвярджалася, што стварэнне новага дзяржаўнага арганізма дазволіць Барысу Ельцыну зноў законна балаціравацца ў прэзідэнты. Але, як яшчэ ў ліпені растлумачыў міністр па справах СНД Леанід Драчэўскі, Барыс Ельцын не можа быць прэзідэнтам саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі, паколькі такая магчымасць не прадугледжана праектам дагавора аб стварэнні такой дзяржавы. Згодна праекту дагавора, галоўным органам улады саюзнай дзяржавы з'яўляецца Вышэйшы савет, у якога састаў уваходзяць „два прэзідэнты, два прэм'еры і кіраўнікі палат парламента Расіі і Беларусі".

Узнікала і такое пытанне: калі Расія і Беларусь аб'яднаюцца як раўнапраўныя партнёры, то які будзе статус рэспублік, якія цяпер уваходзяць у састаў Расійскай Федэрацыі? Чым яны, уласна кажучы, горшыя за Беларусь? Нядзіўна таму, што прэзідэнт Татарыі Мінцімер Шайміеў неаднойчы заяўляў, што калі паміж Расіяй і Беларуссю будзе заключаны раўнапраўны Саюз, то ён паставіць пытанне аб далучэнні да яго Татарыі — у тым жа статусе. Неўзабаве дакумент будзе апублікаваны „для ўсенароднага абмеркавання", якое будзе праводзіцца каля месяца [дакумент быў апублікаваны 8 кастрычніка — рэд.].

У лютым гэтага года ў адзінай саюзнай дзяржаве Беларусі і Расіі, калі такая паўстане, былі згодны жыць 59,6% беларусаў і 51,9% расіян. „Не" будучаму Саюзу сказалі прыблізна 26-27% беларусаў і расіян. Такія рэзультаты былі атрыманы Цэнтрам сацыялагічных даследаванняў расійскага Фонду нацыянальнай і міжнароднай бяспекі пры ўдзеле Грамадскага камітэта садзеяння Саюзу Беларусі і Расіі ў выніку апытання, праведзенага ў трох беларускіх гарадах — Мінску, Гродне, Віцебску і дванаццаці расійскіх. Адказваючы на пытанне аб магчымай форме аб'яднання двух дзяржаў, 46,5% беларусаў і 35,4% расіян аддалі перавагу федэрацыі. Адносіны да саюза з Беларуссю вельмі выразна розняцца ў расійскіх палітычных партыях — чым яны „больш левыя", тым больш рашуча падтрымліваюць аб'яднанне. А вось пазіцыі па гэтым пытанні асноўных палітычных ігракоў.

„Правыя" рашуча настроены супраць саюза. Яшчэ зімой Барыс Нямцоў, гаворачы аб меркаванні наконт рэферэндуму аб аб'яднанні заявіў, што „правыя" збіраюцца дабівацца наступнай фармуліроўкі пытання: *Ці трэба стварыць аб'яднаную дзяржаву, дзе Беларусь стала б раўнапраўным суб'ектам федэрацыі?* „Правыя" гатовы аб'ядноўвацца з Беларуссю толькі тады, калі яна стане суб'ектам федэрацыі, і такую меру якраз падтрымліваюць: па-першае, дае гэта расшырэнне тэрыторыі, па-другое, дадатковы да адрэзанага ад федэральнай тэрыторыі Калінінграда выхад у Еўропу і, па-трэцяе, як гаварыў Нямцоў, добра дапамагчы беларусам, якія толькі выйграюць ад уваходу ў федэрацыю — як у эканамічным сэнсе, так і ў палітычным, паколькі паўнамоцтвы прэзідэнта Лукашэнкі будуць худа-бедна абмежаваны. У красавіку дэпутат расійскай Дзярждумы, лідэр партыі „Эканамічнай свабоды" Канстанцін Баравой прывёз кангрэсу беларускай апазіцыі, які выступаў супраць аб'яднання, цэлы пакет прывітанняў ад аднадумцаў-дэмакратаў — Ягора Гайдара, Анатоля Чубайса, Барыса Нямцова, Аляксандра Якаўлева і іншых, засмучаных і напалоханых перспектывай саюза Расіі і Беларусі. Канстанцін Баравой выказаў падтрымку беларускай апазіцыі ў супрацьстаянні са „злачынным рэжымам" Лукашэнкі, адзначыў, што „сілы рэакцыі" не змогуць затармазіць дэмакратычнае развіццё іх краіны, канстатаваў, што ў Беларусі і Расіі назіраецца „адраджэнне небяспечных імперскіх амбіцый".

„Яблоко" выступае супраць аб'яднання. Яўлінскі гэтым летам рашуча пратэставаў супраць саюза з Беларуссю „на ўмовах Лукашэнкі і яго расійскіх камуністычных паклоннікаў". Ён заявіў, што ў складўшайся сітуацыі „гэта будзе не аб'яднанне раўнапраўных дзяржаў, а толькі аншлюс", таму што за апошнія дзесяць гадоў Расія і Беларусь развіваліся зусім па-рознаму. „Правіла павінна быць наступнае: палітычны саюз не можа апераджаць эканамічнага саюза", — сказаў Яўлінскі і ўдакладніў, што „Яблоком" распрацаваны праект праграмы эканамічнага аб'яднання абедзвюх дзяржаў, і заклікаў „праявіць стрыманасць" і „не дапусціць Белавежскай пушчы наадварот!"

Ідэолаг „Отечества" Вячаслаў Нікаnaў называў саюз з Беларуссю няслушным, паколькі супраць яго выступаюць кіраўнікі суб'ектаў Федэрацыі ў Расіі і ўся беларуская эліта. А член палітычнага савета „Отечества" Андрэй Какошын выказаў пазіцыю руху наконт гэтага пытання наступным чынам:

— Саюз з Беларуссю, курс на стварэнне адзінай дзяржавы нам патрэбны да зарэзу. Але ўзнікае пытанне: які? Уся праблема заключаецца ў тым, каб у суме не атрымаўся „вырадак" і не прыйшлося зноў расходзіцца. Мы ў палітычнай платформе „Отечества" прапісалі прыярытэт адносін не толькі з Беларуссю, але і з Украінай, Казахстанам. Без будовы асобных адносін з гэтымі трыма дзяржавамі Расія не можа быць паспраўднаму вялікай дзяржавай.

У ліпені Маскоўскі гарадскі выбарчы камітэт адмовіў ініцыятыўнай групе, якую ўзначаліў дэпутат Ганчар, у запыце аб падрыхтоўцы да рэферэндуму аб аб'яднанні. Па гэтай прычыне Ганчар так пракаментаваў пазіцыю Юрыя Лужкова: „Лужкоў ніколі не падтрымоўваў гэтай ініцыятывы. На мой погляд, па той прычыне, што ён і Лукашэнка топчуцца на адным электаральным полі".

Аднак яшчэ ў красавіку 1997 года Лужкоў быў выбраны старшынёю Грамадскага камітэта садзеяння Саюзу Расіі і Беларусі „Союз" і стаў адным з самых гарачых прыхільнікаў інтэграцыі. „Разам мы будзем больш багатымі і моцнымі", — аргументаваў Лужкоў неабходнасць аб'яднання. Лужкоў выказваўся адназначна: „Пытанне аб неабходнасці аб'яднання Расіі і Беларусі не выглядае так, «што звычайныя людзі дзвюх рэспублік не бачаць другога шляху для сваіх народаў»", і спасылаўся на рэзультаты сацыялагічных апытанняў. Лужкоў адзначаў немэтазгоднасць правядзення рэферэндуму па пытанні інтэграцыі, паколькі рэферэндум неабходна праводзіць тады, „калі нешта няяснае". Лужкоў заяўляў тады, што сітуацыя патрабуе „дадатковых мер ад грамадскасці, каб супрацьстаяць нападкам праціўнікаў аб'яднання". Асноўнымі праціўнікамі аб'яднання Лужкоў назваў Чубайса, Беразоўскага, Гайдара.

Камуністы аб'яднанне сустракаюць прыхільна. Зюганаў пра дагавор гаварыў станоўча і з энтузіязмам. Ён лічыць, што ў новай дзяржаве ў Камуністычнай партыі Расійскай Федэрацыі з'явяцца моцныя саюзнікі і называе гэтых саюзнікаў новым „фронтам".

— Нельга выключаць з'яўленне зусім нечаканага новага фронту, які ўжо названы Беларускім. Яго ўзначальвае прэзідэнт Лукашэнка. Можа здарыцца, што новыя падзеі, якія наспяваюць у глыбіні расійска-беларускага саюза, пачнуць ажыццяўляцца такімі тэмпамі, што беларусы будуць уцягнутымі і ў расійскія выбарчыя кампаніі: як парламенцкія, так і прэзідэнцкія (як паказаў час, такі варыянт надзвычай сумніўны — рэд.). З'яўленне Беларускага фронту павінна канчаткова скрышыць супраціўленне нашага стратэгічнага праціўніка і выстраіць наступленне па ўсёй вертыкалі ад Балтыкі да Чорнага мора так жа, як і было падчас нашых пераможных наступальных аперацый у 1944-1945 гадах. Расійска-беларускі саюз, які сёння прымае канкрэтныя кшталты, з'яўляецца правобразам тых палітычных методык, якія зноў злучаць брацкія народы ў адзіную саюзную дзяржаву.

Прыгадаем, што камуністы добразычліва сустрэлі прывезеную ў красавіку спікерам Дзяржаўнай Думы Генадзіем Селязнёвым з Бялграда сенсацыйную ініцыятыву Мілошавіча — Прымакова — Бабурына — Селязнёва аб уваходзе Югаславіі ў Саюз Беларусі і Расіі. Лібералы тады часткова таксама падтрымалі гэту ініцыятыву, паколькі паяўленне Югаславіі ў якасці новага іграка, як здавалася, магло на неакрэслены час затармазіць увесь аб'яднаўчы працэс.

Алег Шэнін, лідэр „Саюза камуністычных партый — КПСС", старшыня камітэта „За саюз і брацтва народаў" пераконваў, што „Беларусь з'яўляецца адзінай краінай, якая на справе падтрымоўвае інтэграцыйныя працэсы як у двухбаковых з Расіяй, так і ў шматбаковых адносінах. Што тычыцца Расіі, то з яе боку „робіцца ўсё, каб саюза з Беларуссю не было", — гаварыў Шэнін.

*polit@zhurnal.ru (6.10.1999)*

# Знішчэнне мовы

***(працяг; пачатак у 31 н-ры)***

**12. Дэмаграфічная палітыка**

Дэмаграфічная палітыка адносна беларускага этнасу праводзілася ў былым СССР па прынцыпе: „Мой адрас ні дом і ні вуліца, мой адрас — Савецкі Саюз".

Тыя, хто дамагліся на рэферэндуме ў траўні 1995 года ўраўнавання ў правах дзяржаўнай мовы рускай і беларускай моваў, спасылаліся на тое, што ў Беларусі жыве шмат расійцаў.

Гэта сапраўды так. Расійцы пачалі перасяляцца масава ў Беларусь здавён. Цікава, што з канца XVII ст. яны ўцякалі туды, шукаючы прытулку ад рэлігійнага, але, галоўным чынам, ад дзяржаўнага ўціску царскіх улад. Па афіцыйных расійскіх крыніцах XVIII ст., тады перасялілася з Расіі ў Беларусь не менш за сто тысячаў і не больш за мільён чалавек.

Але вось што дзіўна. Па іншых крыніцах не ўдалося знайсці нават следу захавання расійскай адметнасці гэтых уцекачоў (апроч надта нешматлікіх пасяленняў стараабрадцаў, значэнне якіх у перасяленнях вельмі перабольшана). У чым справа?

Хутчэй за ўсё ў тым, што гэтыя людзі надзвычай хутка асіміляваліся ў беларускім асяроддзі. Іх ані адукацыяй, ані рэлігійнай пратэкцыяй Расійская дзяржава не падтрымлівала.

Масавыя перасяленні рускіх у Беларусь спыніліся пасля прыяднання Беларусі да Расіі. Узнавіліся масавыя перасяленні толькі пры савецкай уладзе.

А пры царызме ў Беларусь ехала велікарускае чынавенства, святары, настаўнікі, якіх прыахвочвала да гэтага царская ўлада, плацячы за тую ж працу, што выконвалі мясцовыя ўраджэнцы, больш тым, хто прыехаў „цывілізаваць" беларусаў. Разглядаючы вынікі працы гэтых „цывілізатараў" Беларусі, Сяргей Дубавец слушна піша: «Бачачы і ведаючы зараз характар гэтага нашэсця, ці можна дапусціць, што гэта было „вызваленне" або „уз'яднанне з Расіяй", — як тлумачыла нам былая прапаганда? Ці можна казаць пра нейкія дабратворныя плады гэтага нашэсця, як, усугуле, і ўсіх наступных адміністратыўных нашэсцяў з „Вялікай зямлі"»?

Па сутнасці, адказам на гэтыя пытанні і будзе тое, чаму мы не сталі расійцамі. Таму, што замест расійскай натуры, мовы, культуры, нам прапанаваліся натура, мова і культура чынавенства. Мы, народ, пераўтварыліся не ў расійцаў, а ў дэнацыяналізаваных урадаўцаў, убіраючы ў сябе гэтую псіхалогію, гэты тып годнасці і вартасцяў. Яны ўваходзілі ў нас не замест нашай беларускай сутнасці, а толькі пацясніўшы яе, прыглушыўшы сваім аб'ёмам, сваёю масаю. Мы так і не адчулі ў сябе нічога расійскага.

У сваю чаргу расійскія ўлады перасялялі беларусаў па-за межы іхняй краіны. Пэўная частка дробнай шляхты была пераселена пасля паўстання 1831 г. у Херсонскую губерню і на Паўночны Каўказ, другую „партыю" шляхты і аднадворцаў перасялілі пасля тлумлення чарговага паўстання 1863 г. Улады заахвочвалі перасяленні беларускіх сялян у Сібір і на Далёкі Усход на пачатку XX ст.

Савецкая ўлада не адмаўлялася ад гэтай практыкі. У ходзе рэпрэсій падчас калектывізацыі з Беларусі было выселена шмат людзей. Тое ж паўтарылася ў 1940-1941 гг. пасля прыяднання да СССР Заходняй Беларусі.

Беларусаў высялялі з родных месцаў пад выглядам вярбоўкі на шахты, новабудовы, лесапавал у тайзе, асваенне цалінных зямель і г.д.

Усё гэта прывяло да змяненняў суадносінаў у Беларусі між беларусамі і расійцамі, якіх прыцягвалі да працы ў Беларусі пад рознымі прычынамі. За гады савецкай улады колькасць расійцаў у Беларусі павялічылася да 1 мільёна 300 тысячаў.

Усё гэта абгрунтоўвалася патрабаваннямі да забеспячэння расійцаў у Беларусі адпаведнымі ўмовамі для расійскамоўнай адукацыі, друку, сродкаў масавай інфармацыі на іхняй роднай мове.

***(заканчэнне будзе)***

**Валянцін Грыцкевіч**

# Блакітная рэспубліка

**У часы апошняй вайны ў Альбярціне размяшчаўся СБМаўскі лагер юначак. Гэтая маладзёжна-грамадская арганізацыя, што аб'ядноўвала беларускую моладзь ва ўзросце 10-20 гадоў, ставіла сабе за мэту вызваленне ад бальшавіцкіх уплываў. Галоўны націск клаўся на маральнае адраджэнне і выхаванне ў духу Новай Беларусі. СБМ выдаваў свой часопіс „Жыве Беларусь".**

**8. Альбярцін**

У Слонім патрапілі мы вечарам. У цэнтры горада адчувалася подых мінуўшчыны. Вузкія вулічкі і гістарычная забудова наводзілі асацыяцыі з карцінамі Шагала. У паветры адчувалася прысутнасць цуду і кайфу. З дапамогай мясцовага хлапца, які замест расталкаваць дарогу, сеў у нашу машыну і падвёз на месца, папалі мы ў гасцініцу „Шчара". Ужо ў самім уваходзе прывітала нас непрыстойная спрэчка падпітых мужыкоў. У кафэ-рэстаране гудзела быццам у вуллі. На дадатак вахцёрка, апранутая як на навагодні баль, у сярэбраную кофту ды прыхарошаная яркім марафетам, прапанавала нам нудлівым тонам начлег у агульнай зале, дзе трэба было заплаціць пяць разоў даражэй чым грамадзянам Беларусі. Наш гарадзенскі сябра заначаваў бы ў выгадным пакойчыку за 620 тысяч рублёў, мы ў агульнай зале, восем асоб, за 24 мільёны беларускіх рублёў.

— А якая плата для беларусаў з Польшчы? — мы рашылі адклікаць да патрыятычных пачуццяў вахцёркі.

— Якія вы беларусы, калі ў Польшчы жывяце! — не магла зразумець нас жанчына.

Здаецца, грамадзянства і нацыянальнасць абазначала для яе адно і тое ж. Заначаваць у „Шчары" знеахвочвалі нас таксама п'яныя бяседы гасцей у кафэ-рэстаране, дзе самым папулярным словам было бля.... Пад іх уплывам у галаве мроіліся крымінальныя сцэнарыі. І таму рашылі мы чым хутчэй уцячы з гэтага кубла злачыннасці ды пашукаць больш прыстойнае месца. Наш намер быў усё ж рызыкоўны. У Беларусі, ды яшчэ ноччу, складана знайсці іншы начлег як у гасцініцы. У студэнцкія інтэрнаты ці на прыватныя кватэры не прымаюць выпадковых турыстаў. Замежнік надалей у свядомасці звычайнага беларуса явіцца шпіёнам.

На шчасце мы былі непадалёк Жыровіч. Яшчэ ў дарозе мы зразумелі, што чым бліжэй Жыровіч, тым гусцей на нашым шляху выраслі цудадзейныя здарэнні.

Дапамог нам незнаёмы хлапец, якога сустрэлі мы ў цэнтры Слоніма. Выявілася, што начлег можна знайсці ў недалёкім Альбярціне. На дадатак наш новы знаёмы ехаў у тым жа напрамку. Хлапец, дарэчы, *расслабленьі*, ад усёй душы хацеў нам дапамагчы. Ён не толькі падвёз нас пад сам інтэарнат.

— Калі вас там не прымуць, паедзем у маю хату, — прапанаваў.

Прытым нямала хваляваўся, бо кватэра, куды меў нас завезці, была не надта прасторная. На шчасце, пашанцавала ў інтэрнаце. Тут было спакойна, утульна і чыста. На дадатак зусім танна. З-за на нелегальнасці паслугі мы былі вымушаны пакінуць інтэрнат у шэсць гадзін раніцы. На развітанне ў вочы кінуўся блакітны лозунг на будынку: „Пусть всегда будет солнце".

Надвор'е аднак капрызнічала.

У Альбярціне нам трэба было наведаць палац, дзе ў часы апошняй вайны размяшчаўся СБМаўскі лагер юначак.

— Дзе тут палац? — пыталі мы сонных жыхароў Альбярціна.

Надзіва, ніхто не ведаў пра такі будынак. Наш шафёр параіў нам памяняць тактыку. Затым мы пачалі распытваць пра Дом культуры. І неўзабаве былі на месцы.

Палац у стылі позняга класіцызму з пачатку XIX стагоддзя пачаткова належыў прадпрымальніку В. Пуслоўскаму. Побач з сядзібай размяшчаліся фабрыкі сукна і паперы. У палацавы комплекс уваходзілі яшчэ флігель, гаспадарчая забудова, пейзажны лесапарк з Альбярцінскім возерам, створаным запрудай на рацэ Ісе. Зараз у ацалелым палацы дзейнічае культурная ўстанова. Працуюць бібліятэка, клуб, ладзяцца дыскатэкі. Будынак толькі што рамантаваўся. Аднак, калі б нам не сказаў пра гэта сустрэты мужчына, мы ніколі не здагадаліся б. Дзверы палаца, аздобленыя ianічным порцікам, размаляваны алейнай фарбай на арэхавы колер. Гістарычныя балкончыкі — на блакітны. Каларыстыку дапаўняе пачэплены там чырвона-зялёны сцяг. Аднак найбольшая эстэтычная знявага сустрэла скульптуры львоў, памешчаныя перад уваходам. Як вядома, сваёй сімвалічнай прысутнасцю маюць яны засцерагаць будынак ад уваходу хаосу. Тут бедных ільвоў размалявалі сярэбранай фарбай.



Не меншыя эстэтычныя сюрпрызы чакаюць наведвальніка з боку чорнага ходу. Ля былога гаспадарчага будынка, памечанага шыльдай „Дворец спорта", пабачыце статую спартсмена. Ідэал мужчынскай прыгажосці шыкарна прыадзеты. На ім блакітная ў абцяжку майка, смарагдавыя штонікі, на здаравенных лытках — паласатыя футбольныя блакітныя гетры. Цокаль таксама памаляваны блакітнай фарбай.

З пералічанымі прыкладамі неахайнасці кантрастуе стары парк і чароўнай прыгажосці возера. Побач палаца пасвіліся коні. Сёння таксама ў комплексе знаходзіцца стайня.

Ля палаца сустрэлі мы Мікалая Плахцінскага, родам з падбеластоцкіх Бацютаў. У Беларусь папаў ён разам з бацькамі ў 1946 годзе. Пасляваенныя рэпрэсіі з боку польскага падполля спрычыніліся да масавай рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз. З самых Бацютаў выехала чатыры сем'і. Выявілася, што ў Альбярціне пражывае значная колькасць пасляваенных перасяленцаў з Беласточчыны. Наш субяседнік з крайняй асцярожнасцю адказваў на нашы пытанні. Мы, як палякі, хвалявалі яго, выклікалі страх і недавер.

Зараз Альбярцін вядомы з вытворчасці туалетнай паперы. З 1965 года мястэчка стала прыгарадам раённага Слоніма, у якім больш за пяцьдзесят тысяч жыхароў. Багацце архітэктурных помнікаў і прысутнасць суродзічаў выклікалі жаданне яшчэ раз наведаць горад.

*(працяг будзе)*

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



# Нялёгкая доля кніжкі



*Гражына Насковіч за працай.*

Гражына Насковіч з Гміннай публічнай бібліятэкі ў Орлі з кнігамі працуе ўжо 14 гадоў. Пачынала яна працу ў бібліятэчным філіяле ў Градалях. На работу хадзіла з Рыгораўцаў пешшу. Тады ў Градалях бібліятэкай карысталася каля ста жыхароў вёскі. Апрача таго бібліятэчныя пункты былі ў Кошках, Дыдулях, Рыгораўцах, Малінніках, Тапчыкалах і Маскоўцах.

— У 1990 годзе філіял і ўсе бібліятэчныя пункты былі ліквідаваны, а кнігі трапілі ў школьную бібліятэку ў Малінніках. Засталася працаваць толькі Гмінная публічная бібліятэка ў Орлі, — расказвае Гражына Насковіч. — Паводле мяне, адзін бібліятэчны філіял у гміне павінен існаваць, бо жыхары заходняй часткі гміны на практыцы пазбаўлены магчымасці карыстацца бібліятэчнымі паслугамі.

У Орлі Гражына Насковіч працуе з 1988 года. Тады Гмінная публічная бібліятэка змяшчалася ў прыватным будынку, потым была пераведзена ў падвал ветэрынарнай лячэбніцы і толькі ў 1996 годзе кнігазбор трапіў зноў у падвал новай школы. Умовы работы тут не найлепшыя, бо ўвесь час прыходзіцца працаваць пры электрычным святле, дакучаюць сырасць і мышы. Цяпер гмінны кнігазбор налічвае амаль 11 тысяч тамоў, з ліку якіх амаль тры з паловай тысячы кніг складае дзіцячая літаратура.

— Сёлета купілі мы 149 кніг на суму 1342 зл. і да канца года на кніжкі можам выдаць яшчэ 500 зл., — тлумачыць бібліятэкарка. — Неабходна купіць нам абавязковую літаратуру для гімназіі, напрыклад, Бібліі. Купіла я на выгадных умовах у кнігарні „Пад каштаном" у Сямятычах многа кніжак для сярэдніх школ. Кнігі на рускай і беларускай мовах не карыстаюцца ў нас папулярнасцю і мы іх не папаўняем новымі выданнямі.

На канец чэрвеня г.г. у арлянскай бібліятэцы зарэгістраваны былі 174 чытачы, у тым ліку 112 школьнікаў ва ўзросце да 15 гадоў. Цяпер колькасць наведвальнікаў бібліятэкі павялічылася да 206 чалавек. Сёлета ў першым паўгоддзі чытачы пазычылі 3060 кніжак, у тым ліку 1603 экземпляраў дзіцячай літаратуры. Мужчыны найахвотней чытаюць ваенную літаратуру. Дэтэктывы ўжо не карыстаюцца ў іх папулярнасцю. Затое жанчыны аддаюць перавагу любоўным і бытавым раманам, каб такім чынам асаладзіць сабе складанасці цяперашняга жыцця.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Арыгінальны Дзень настаўніка

Як адзначыць свята настаўніка? Настулька не хацела паўтараць мінулагодняй практыкі. Тады ўвесь іх клас сабраў грашавую складчыну і купіў выхавацельцы крышталёвы вазон. Нягледзячы на вялікую ангажаванасць старасты класа, які ездзіў аж у Беласток за падарункам, узнагарода сталася правалам! Пані Ліля, іхняя любімая настаўніца, не пераносіла крышталёвага посуду! Той вазон падарыла яна сваім сябрам — маладажонам, пра што данесла ўсім, зразумела, у вялікім сакрэце, дачка пані Лілі, класная сяброўка.

Настулька перажывала найбольш. Дзяўчынка распытвала сваіх старэйшых сясцёр, сяброўак з іншых класаў, знаёмых. Аднак усе раілі ёй купіць — як думаеце — што? Крышталёвую пасудзіну!

— Ніколі! — заперлася пяцікласніца. Лепш ужо прыкідвацца, што „Свята настаўніка" не існуе. Пайсці звычайна ў школу і паводзіць сябе, як заўсёды. Аднак класныя сябры ўсклалі на Настку ўсю надзею. Яны верылі, што дзяўчынка ў канцы нешта прыдумае. Не дарма ж яе выбралі старастам класа.

Тыдзень да свята Настуля прыйшла дзівосна ўсцешаная. У яе зялёных вачах гарэла новая ідэя.

— Не будзе ніякіх крышталяў, — сказала Настуля. — Мы падрыхтуем для нашай настаўніцы сапраўдны сюрпрыз!

Увесь тыдзень, кожны дзень пасля урокаў, сустракаліся пяцікласнікі. З кожным днём іхняя задума набывала воблік. Нашы сябры хадзілі па калідорах школы з таемнымі ўсмешкамі.



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Урэшце і прыйшоў доўгачаканы Дзень настаўніка. Усе пяцікласнікі надзелі тэатральныя касцюмы. Пасля добрую гадзіну паказвалі свой спектакль. Яго гераіняй была настаўніца, якая не пераносіла крышталёвага посуду. Няцяжка было здагадацца, хто з'яўляецца гераіняй п'есы. Некаторыя гледачы аж паплакаліся ад смеху!

Найбольшую пацеху мела пані Ліля. Яна ведала, што выхаванцы яе шануюць і любяць! Арыгінальная ўзнагарода ўсцешыла яе больш, чым маглі спадзявацца акцёры.

ЗОРКА

## Вершы Віктара Шведа

### Белае і чорнае

— Чаму да шлюбу маладая  
Апранаецца ў белае?  
— Белае, сынок, абазначае  
Радасць зразумелую.

— Усведамляецца тады  
Параўнанне ўзорнае:  
Чаму да шлюбу малады  
Апранаецца ў чорнае?

### Чаму плачаш?

— Чаму плачаш, Лёўка?  
— Згубіў залатоўку.  
— Вось маеш два злоты,  
Каб не меў маркоты.

Аднак, дружа, бачу,  
Ты ў далейшым плачаш.  
— Меў бы тры манеты  
Каб не згуба гэта.

Васіль САХАРЧУК

## Моўныя загадкі

1. Вырас брат Пракурат  
ніжэй лесу, вышэй хат.  
Па-над вёскаю ўстаў  
і табаку дастаў,  
а як люльку закурыў,  
дык паўнеба закрыў.

2. Белы, як снег,  
тоўсты, як мех,  
лапатамі ходзіць  
чараду водзіць.

3. Рагаты конь  
нясе пана ў агонь,  
а пан ані дбае,  
да жару сядае.

4. Паніч між панамі  
дагары нагамі,  
салому падбірае  
і ў горы скідае.

*(комін, гусь, вілкі і чыгун, вілы)*

## Дарагая Зорка

Я зноў рашыла напісаць табе ліст. Гэтым разам пра маю сяброўку. Яна напісала верш, які мне вельмі падабаецца. Аднак яна не мае адвагі паслаць свой твор у рэдакцыю, а можа яна хоча ўчыніць мне на злосць. Я ўжо не ведаю, як яе намаўляць.

Хачу яшчэ напісаць пра маю школу. Раней я вучылася ў Пачатковай школе ў Старым Корніне. Мая школа існавала з 1906 года. Праз сем гадоў мы адзначалі б сотую гадавіну нашай школы. Зараз усе вучні нашай школы ходзяць у Пачатковую школу ў Дубічах-Царкоўных. Наша старая школа стаіць цяпер пустая і сумная.

Анэта ГАЛІМСКАЯ

## Кукуруза

Ідзе Кукуруза на баль.  
Захопяцца Ёю госці:  
Тонкі стан, рост, светлы вуаль  
Развейвае, срэбны і росны.  
І той залацісты качан  
І лісце доўгае, тонкае!..  
Як горда ідзе ў тан,  
Золатам зерня пазвоньвае.  
Апошні танец жыцця.  
Расла, даспявала... Жніва.  
А ў кожным зярнятку — Яна! —  
Закрасуе вясною над нівай.

Міра ЛУКША

# Я ўжо не замаўляю(2)

**(працяг; пачатак у 42 нумары)**

Каб увайсці ў хату знахаркі, трэба адкрыць дзверы, а пасля занавеску. Здаецца, што дом даўно ўжо не праветрывалі. Усярэдзіне пануе духата. Пасля адкрыцця чарговых дзвярэй, чарговая занавеска — танчэйшая ад папярэдняй. Яна з такога матэрыялу, што наваконныя фіранкі. Насупраць стаіць доўгі стол. Ля яго тры драўляныя зэдлікі, старое крэсла. Гэта кухня. Акно шчыльна закрытае. Пасля некаторай хвіліны прывыкаем да ўдушша. З-за сцяны даходзіць гук тэлевізара. Чуваць галоўнае выданне вестак.

— Ужо іду, — рэагуе нехта на скрып дзвярэй.

На кухню заходзіць сямідзесяцігадовая бабуля. У яе паморшчаны твар. Апранутая яна ў светлую спадніцу ў каляровыя кветачкі. На белай кашулі відаць недамытую чырвоную пляму. Кабета стаіць басанож. Даўно не абразаныя запушчаныя пазногці кантрастуюць з парадкам, які пануе ў кухні. На чырвоным дыване не відаць ні адной смяцінкі.

— Што так стаіце? Сядайце, — запрашае нас бабуля.

На стале ляжыць цырата, па якой шпацыруе муха. Што і раз узлятае і зноў прысядае на стол. Можа ёй душна? На ілбе Ігара з'яўляюцца кроплі поту. На маім таксама. Нашай субяседніцы жар не перашкаджае.

**Людзі насміхаюцца**

— У вёсцы гаворань, што дапамагаеце людзям, — пачынае размову Ігар.

— Няпраўда, — пярэчыць кабета.

Складаецца ўражанне, што яна хоча пераканаць не толькі нас, але і сябе.

— У чым справа? — пытае.

Ігар паказвае на мяне.

— Гэтая дзяўчына мае праблемы са сном. Увесь час адчувае сябе стомленай. І ўвесь час баліць ёй галава.

Кабета спазірае на мяне падазрона.

— Таксама маладая і хварэе. То хай да лекара пойдзе, — абрэзвае размову.

— Яна ўжо была ў многіх лекараў. Нават у Варшаве. І ніхто не ўмеў ёй дапамагчы, — працягвае гутарку Ігар.

Старэча спыняе яго:

— Я таксама не ўмею. Сама хварэю і не магу з гэтым справіцца. Пазваночнік усё баліць і баліць. Лекар сказаў, што гэта паталогія. Калі б я ўмела лячыць, даўно ўжо мне нічога не балела б.

— Я чуў, што вы ўмееце так моцна маліцца, што Бог чуе вашы словы, — пачынае яшчэ раз Ігар.

— Людзі ўсяляк гавораць. Учора мой унук вярнуўся дахаты і кажа: „Babciu, ciebie we wsi to szeptuchą nazywają". А ў вочы чалавеку то ніхто не скажа.

Унук бабулі завецца Андрэй. Яму семнаццаць гадоў. Хлопец мае чорныя валасы і цёмныя вочы. Некаторыя гавораць, што бабка яго зачаравала. Кажуць, што калі дзяўчына загляне яму ў вочы, адразу ў яго закахаецца.

Старэча трывожна ўздыхае:

— Жыву як Бог прыказаў, а лю-

# Любяць экскурсіі

У Падставовай школе ў Арэшкаве вучыцца 67 вучняў, а на занятκі беларускай мовы не ходзяць толькі адзінкі. Вучоба адбываецца ў прасторным мураваным будынку. Вучняў з навакольных вёсак прывозяць у школу на машыне. У гэтым навучальным годзе вучацца ў Арэшкаве дзеці з Барка, Лазіцаў, Пасечнікаў і Тапіла. Вучні, якія вучацца роднай мове, прымалі ўдзел у прадметным конкурсе беларускай мовы і ездзілі на дэкламатарскія конкурсы. У мінулым годзе выступалі на Аглядзе беларускіх школьных тэатраў у Кляшчэлях з пастаноўкамі „Ёлачка" і „Першыя крокі самастойнасці". Пасля паказвалі гэтыя сцэнкі школьным сябрам і настаўнікам. Вылучэнне і ўзнагароду ў Кляшчэлях за ролю Віцькі атрымала Маргарыта Навіцкая. Яна стала таксама пераможцам у сваёй школе ў конкурсе на найлепшага вучня. Ужо цяпер вучні пачнуць рыхтавацца да дэкламатарскага конкурсу беларускай мовы, а вершы спачатку будуць дэкламаваць у сваёй школе.



Маргарыта Навіцкая — найлепшая вучаніца ў школе.



Вучні восьмага класа з выхавацелькай Валянцінай Касцевіч.

Куточак беларускай мовы з беларускімі кніжкамі і беларускай насценгазетай знаходзіцца ў кабінеце восьмага класа. Яго выхавацелька Валянціна Касцевіч вучыць беларускай мове ў старэйшых класах. Найлепшыя вучні восьмага класа — Уршуля Авярчук, Уршуля Сцепанюк і Тамаш Гурын — можа, пазней будуць вучыцца ў Гайнаўскім беларускім ліцэі. Настаўніцы беларускай мовы ў малодшых класах гэта Ірэна Герасімюк і Іаанна Бах. Дырэктар школы Тамара Крайнік гаворыць, што вучні любяць экскурсіі. У мінулым годзе ездзілі ў Беласток, Аўгустаў і над Семяноўскі заліў. Разам з сябрамі з Махнатага і Дубін ездзілі ў Гданьск і ў Татры. У гэтым годзе плануюць яшчэ паехаць у Бяшчады.

**Аляксей МАРОЗ**
*Фота аўтара*

# Яна + Ён = ...

**(частка II)**

Як памятаеце, Марта рассталася з Марцінам. Але на магла забыць яго. Пачаўся навучальны год. Марта адчувала, што ў я сэрцы не тухне іскарка кахання, і рашыла пазваніць Марціну вечарам. Рушыла да тэлефоннага аўтамата пад блёкам. Раптам пачула, як хтосьці выгукнуў яе імя. Але наўкола нікога не было... Марта ўзяла тэлефонную трубку, укінула жэтоны. Хтосьці падышоў да яе. Абярнулася — убачыла Марціна.

Марцін пачаў размову. Папрасіў у Марты прабачэння. Ён разумеў, што зрабіў кепска, не шукаючы кантакту з дзяўчынай. За той час, калі не бачыліся, сказаў, у сваім сэрцы адчуў, што там разгараецца каханне. Як тут не даравць, калі пачуеш такія словы...

Яны пайшлі ў рэстаран. За кавай Марцін растлумачыў дзяўчыне, кім была тая красуня, якую ён адвозіў на машыне. Гэта дваюрадная ягоная сястра, студэнтка, што прыехала да яго сям'і ў госці. А таму не бачыліся з Мартай нейкі час, што выязджаў з пляменніцай у госці да яе. Марта супакоілася. Марцін адвёз аўтамабілем сяброўку дадому. Дамовіліся, што сустрэнуцца заўтра пасля ўрокаў.

Калі Марта зайшла ў сваю хату, маці кінулася пытацца: „Хто цябе адвозіў?!" Пасля ўвесь вечар не магла думаць пра ўрокі. Назаўтра ледзь дачакалася канца заняткаў. Вылецела са школы як на крылах. Пайшла ў тое месца, дзе дамовіліся, але Марціна там не было. Чакала паўгадзіны. Рушыла пасмутнелая дадому. Меркавала, што Марцін зойдзе па яе дахаты. Але так не сталася. Агарнула яе злосць. Пэўна, тая прыгажуня ніякая не яго сваячка, а ездзілі яны былі не ў ніякія госці, толькі, як пара, весела закончылі канікулы, калі Марта карпела ў сваім гарадку, чакаючы, як збаўлення, званка ад каханага! І заснуць сёння не магла, усё маркотна думала пра сваю бяду. Сярод ночы сарваў яе з пасцелі званок тэлефона.

Мусіў, тлумачыўся Марцін, адвезці бабулю ў бальніцу, таму і не прыйшоў. У Марціных вачах загарэлася радасць. Ды зноў ахапілі яе сумненні: вось, напэўна, маніць Марцін пра тую бабуліну хваробу. Што, можа, да поўначы сядзеў пры яе шпітальнай койцы?! А, можа, сапраўды так і было?..

Раніцай Марта павалаклася ў школу. Раптам пачула, як сігналіць аўтамабіль. Марцін падвёз дзяўчыну пад школу. Абяцаў, што сёння абавязкова сустрэнуцца пасля абеду.

Пасля заняткаў Марцін забраў Марту з-пад школьнай брамкі і завёз яе да свайго дому. Пазнаёміў яе са сваім братам. Відаць было, што брату, Адаму, яна спадабалася. Яны пагаварылі, пасмяяліся, выпілі гарбату. Марцін хацеў адвезці Марту дадому, але брат спахапіўся, што ён ідзе ў той раён да сябра, дык можа яе пешшу правесці.

Ішлі памаленьку ў бок Марцінай хаты. Раптам Адам неспадзявана запрапанаваў Марце сустрэчу. Дзяўчына збянтэжылася: „Я падумаю..."

***(працяг будзе)***

**Аня П.**

P.S. Дзякую маім сябрам з II „ц" класа за падтрымку мне і майму пісанню! А таксама прафесар Іаланце Грыгарук за сардэчную апеку.

дзі за добрае сэрца толькі нейкай шкодай адплачваюць. Зараз я нікому не дапамагаю.

— Гэта значыць, што даўней вы дапамагалі людзям?

— Ну так, — прызнаецца бабуля. — Але толькі хворым на эпілепсію. Толькі такое я ўмела. А цяпер пастарэла, сіла мая прапала. Бо гэта мучыла мяне. Уначы, калі клалася спаць, то ўвесь час думала пра тую асобу, малілася, каб яна аздаравела. Часам, калі нехта яшчэ прыйдзе, то сэрца ў мяне з жалю сціснецца.

— А як тое ўсё праходзіла?

— Вы маладыя, вам лепш не ведаць пра такое. Гэта вялікае няшчасце. Памагаеш людзям, але гэта нялёгкае жыццё. Пазней усе цябе пальцамі тыцкаюць. Гэты дар мне перадказала адна старэйшая кабета. Я ўжо нікому не перакажу. Маладыя ў тое не вераць — і маюць рацыю. Бо з замовамі адны клопаты.

Бабуля на хвіліну спыняе размову, бярэ бітку на мухі і праганяе тую, што шпацыравала па стале.

— Паедзьце ў Орлю, там жыве баба, якая мае сапраўды вялікую моц. Яна напэўна вам дапаможа.

**Усё роўна баюся хадзіць у лес**

— Калі я была малым дзіцём, напалохаў мяне певень, — расказвае Ілона, мясцовая дзяўчына. — Я баялася хадзіць у лес. Тады мама завяла мяне да такой старэйшай жанчыны. Тая завінула мне галаву ручніком і паліла яе цёплай вадой. Штось там сабе гаварыла, не памятаю што. Хіба нейкія малітвы. А цяпер усё роўна баюся хадзіць у лес. І дрэнна сябе адчуваю, калі пабачу пеўня.

**Аня ТАЧЫСКАЯ**
*„Inny świat", Старына*

# Польска-беларуская крыжаванка № 43

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы з наклееным кантрольным талонам дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Świt | ▼ | Duma / Łapa | ▼ | Rozkaz | Palant | ▼ |
| ▶ | | ▼ | | ▼ | Kora | |
| Noga | ▶ | | | | 📖 | |
| Aparat / Grzęda | ▶ | | | | | |
| ▶ | | | | | 📖 | |

**Адказ на крыжаванку н-р 39:** Дарога, рама, рыс, лата, шаша, увага, кашмар. Гарышча, раса, дом, галава, ява, ар, парадак.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Пятрусь Рошчыц**, **Кася Лукашэвіч**, **Станіслаў Раца** з ПШ у Кнарыдах, **Маргарыта Дамброўская** з Беластока. Віншуем. Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

# Выстава пад знакам вялікай рыбы

16 верасня ў Расійскім доме навукі і культуры ў Гданьску (вуліца Длуга, 35) генеральны консул Рэспублікі Беларусь Міхал Аляксейчык адкрыў выставу прац беларускіх мастакоў — прафесараў Беларускай акадэміі мастацтваў у Мінску: Валянціны Сідаравай і Уладзіміра Зінкевіча (сужонства) ды Віктара Альшэўскага. Разам мастакі паказалі 30 сваіх прац. Выстава пачынаецца з карціны В. Альшэўскага. „Кветкі над Гданьскам". Хаця мастакі прэзентуюць розныя тэхнікі і матывы, спалучае іх сімвалізм і матыў вялікай рыбы: „Час вялікай рыбы" В. Альшэўскага, „Падарожжа вялікай рыбы" У. Зінкевіча і „Возера вялікай рыбы" В. Сідаравай. „Адкуль такая супольнасць тэмы: міфалагічная вялікая рыба?" — спытала я ў мастакоў. „А мы ўсе «рыбаловы» і ўсё жыццё шукаем сваёй «вялікай рыбы» — гэта ж сімвал шчасця, веры, свабоды, несмяротнасці, жыцця. Таму і для мастака гэта вельмі выгодны матыў. Рыба сімвалізуе шмат чаго, у залежнасці ад кантэксту. Вось гэтыя кантэксты і бачныя на карцінах".

Працы беларускіх мастакоў сюррэалістычныя, месцяцца ў каноне сучаснага авангарднага мастацтва. У працах В. Альшэўскага дамінуе матыў рыцара ці толькі самой рыцарскай зброі. Усе фігуры на яго карцінах быццам закамянелыя, застыўшыя ў часе і ў прасторы. Рыцарамі В. Альшэўскі захапляўся яшчэ з дзяцінства. Нават у роднай бацькоўскай хаце некалі намаляваў на сцяне вялізнага рыцара, які гадамі абклейваўся ўсё штораз больш і больш шпалерамі. Рыцары на карцінах В. Альшэўскага бачацца як рэлікт магутнай гісторыі, якая адышла ў нябыт. Рыцары пазбаўленыя галавы, ног, твару, рукі, ці проста адна рыцарская зброя нагадвоюць пра іх непаўнацэннасць у сённяшняй рэчаіснасці, калі сапраўдная рыцарскасць аджылася. Бачна гэта на карцінах пад рознымі загалоўкамі: „Тры ў лодцы", „Два бакі кахання", „Спакой", „Казка пра прынцэсу", „Выхад на паляванне".

Працы У. Зінкевіча ў адрозненні ад В. Альшэўскага выкананы зусім іншай тэхнікай. Яе аснова — вада і фарбы, якія ў ёй разліваюцца. Дзякуючы такой натуры атрымоўваецца цікавае і часта нечаканае спалучэнне вады і распушчанай у ёй фарбы. Гэты „нечаканы эфект" і натхняе творча У. Зінкевіча да новых думак і тэмаў. І атрымоўваецца з гэтага проста „Пейзаж", „Цішыня" ці „Чаканне". „Пішу вадой і зачараваны тым, што вада робіць", — кажа мастак.

В. Альшэўскі і У. Зінкевіч працуюць на кафедры манументальнага мастацтва. У. Зінкевіч зараз кіруе гэтай кафедрай, В. Сідарава працуе на кафедры графікі, што і бачна на яе хаця шэрых, але цёплых карцінах. Цеплыні дадае ім або коцік („Гаспадар"), або сімпатычны бабёр („Малая выспа"), або проста па шэрасці раскінутыя даспелыя ягады рабіны („Цёплае святло"). Карціны В. Сідаравай уводзяць назіральніка ў казачную краіну — як напрыклад тое ж „Возера вялікай рыбы": на хрыбце рыбы над возерам — казачны лес і палац.

В. Сідарава да нядаўна яшчэ працавала як свабодны мастак і выконвала ілюстрацыі да казак.

Усе трое — маладое пакаленне (народжанае ў 50-я гады), але ўжо сталае ў мастацтве. Маюць ужо сваіх вучняў, здольных мастакоў, якія выстаўляюцца за межамі Беларусі.

З гонарам і гордасцю выказваюцца пра беларускую мастацкую мінскую школу, пра сваіх настаўнікаў: Гаўрылу Вашчанку, Леаніда Шчамялёва, Альгерда Малішэўскага, Васіля Шаранговіча.

Аднак сёння ў Беларусі цяжка выжыць з аднаго мастацтва. Праўда, зніклa сістэма дзяржаўнага нагляду за мастакамі, зніклі заказы на ідэалагічныя працы, за якія раней дзяржава нядрэнна плаціла. Адчуваецца свабода творчай працы і адначасова цяжкія сацыяльныя ўмовы жыцця. Мастак — прафесар у Беларускай акадэміі мастацтваў зарабляе ў месяц каля 30 долараў. Мастакі маюць ад дзяржавы майстэрні, за якія плацяць малую арэнду. Аднак дорага каштуюць фарбы і іншыя матэрыялы.

19 сакавіка 1995 г. беларускія мастакі заснавалі Беларускую акадэмію выяўленчага мастацтва. Гэта грамадская ініцыятыва, якую ўзначальвае Фелікс Янушкевіч. Віцэ-прэзідэнтам з'яўляецца У. Зінкевіч, а В. Альшэўскі — вучоным сакратаром Акадэміі ў ліку 20 асоб — прызнаных мастакоў. Дзейнічаюць грамадска, шукаюць спонсараў, арганізуюць выставы і дабрачынныя акцыі. У мінулым годзе арганізавалі ў Музеі мастацтва ў Мінску выставу „Шлях да Міцкевіча". Спансаруюць Акадэмію Мінскі гарэлачны завод „Крышталь" і Керамічны завод „Керамін".

Выстаўка ў Гданьску працягвалася да 8 кастрычніка. Можна было купіць працы мастакоў. Цана адной карціны 800-1000 злотых. Дарэчы, гэта першая выстаўка ўспомненых мастакоў у Польшчы, хаця выстаўлялі яны ўжо свае працы ў Італіі, Нямеччыне, Бельгіі, Іспаніі, ЗША, Балгарыі, Нарвегіі.

Выстаўка атрымалася дзякуючы прыватнай ініцыятыве Міхала Аляксейчыка. Таксама, як і ў сакавіку. Відаць, Гданьск мае шмат шчасця да беларускага мастацтва. Папярэднія генеральныя консулы — Аляксандр Шахновіч і Анатоль Бутэвіч — таксама арганізавалі выстаўкі беларускіх мастакоў. Шкада, што беларускія дыпламаты ні ў Варшаве, ні ў Беластоку не праяўляюць такой ангажаванасці, асабліва, калі выстава ладзіцца ўжо ў Польшчы. Думаю, што зацікаўленне беларускім мастацтвам у Беластоку было б намнога большае чым у Гданьску. Тым больш, што ў гэтай дзялянцы Беларусі сапраўды ёсць чым ганарыцца.

**Лена Глагоўская**



*Валянціна Сідарава, „Возера вялікай рыбы".*

# Павятовы цэнтр культуры

Адміністрацыйная рэформа краіны, якая аднавіла паветы, выклікала неабходнасць ствараць павятовыя культурныя ўстановы. У Бельскім павеце ў планах на 2000 год прадугледжваецца стварыць Павятовы цэнтр культуры.

Галоўнай задачай павятовай культурнай установы будзе арганізаванне масавых культурных мерапрыемстваў. На думку старaства, цяпер у павеце няма спецыялізаванага асяродка па правядзенні ўрачыстасцей, напрыклад, з нагоды дзяржаўных святкаванняў. Павятовы цэнтр культуры плануе цеснае супрацоўніцтва з гміннымі асяродкамі культуры, а таксама ўдзел у мерапрыемствах па-за межамі Бельшчыны з мэтай прапагандавання павета і гмін і прыцягнення сродкаў на сваю дзейнасць. Новая ўстанова будзе займацца арганізацыяй сустрэч з прадстаўнікамі свету культуры, ладзіць гістарычныя і мастацкія выстаўкі, праводзіць конкурсы самадзейнасці, перш за ўсё для дзяцей і моладзі.

**Міхал Мінцэвіч**

# Папаўняецца наша спадчына

„Мы бойкая моладзь — арлы маладыя" — пад такім лозунгам сарганізавалі мы ў 1986 годзе ў Варшаве атрасіны студэнтаў-першакурснікаў беларускай нацыянальнасці. Наўрад ці хто з тадышніх арганізатараў, не кажучы ўжо аб простых гульцах, ведаў, што гэтыя словы — фрагмент верша. Яго аўтар яшчэ доўга заставаўся невядомым. А быў ім Уладыслаў Казлоўскі, які падпісваўся псеўданімам „Казлоўшчык" — адзін з ідэолагаў беларускага нацыянал-сацыялізму ў даваеннай Польшчы, рэдактар „Беларускай (Менскай) газэты" пад нямецкай акупацыяй.

Паходзіў ён з вёскі Залессе Сакольскага павета. Сляды яго ў наш час нанава адкрывала д-р Лена Глагоўская. Але толькі цяпер можам пазнаёміцца з ягонай творчасцю. Прэзентуецца яна ў выдадзенай Беларускім саюзам кніжцы „Вяртанне да сваіх"*. Яе укладальнік, паэт і літаратуравед са Слоніма Сяргей Чыгрын пад адной вокладкай змясціў яшчэ двух ураджэнцаў Сакольшчыны — Станіслава Грынкевіча і Франука Грышкевіча.

Першы нарадзіўся ў мястэчку Новы Двор. Штудзіраваў медыцыну ў Вільні і Познані. Стаўшы лекарам, пашыраў медыцынскую асвету на беларускай мове, друкаваў артыкулы ў беларускіх газетах, перакладаў рэлігійныя творы, займаўся драматургіяй. Другі паходзіў з Сухаволі. Пасля заканчэння літаратурнага факультэта Карлавага універсітэта ў Празе жыў у Вільні. Пісаў вершы. Пры саветах узначальваў беларускую асвету Віленскай школьнай акругі, а пры немцах — Віленскую беларускую гімназію. За гэта быў арыштаваны органамі НКУС у 1944 годзе. Не вытрымаў допытаў і выскачыў з акна мінскай турмы на вуліцу.

Жыццёвыя шляхі Уладыслава Казлоўскага і Станіслава Грынкевіча таксама абарваліся трагічна. Казлоўскі быў застрэлены ў 1943 годзе за рэдактарскім сталом, а Грынкевіч — расстраляны саветамі ўлетку 1945 года пад Магілёвам. І адно цяпер яны вяртаюцца ў беларускую культуру і да сваіх суродзічаў на Беласточчыне.

Наконт літаратурнай вартасці твораў — публіцыстыкі, вершаў і апавяданняў — у кніжцы „Вяртанне да сваіх" можна было б паспрачацца. Таксама не ўсе з іх вытрымалі выпрабаванне часам (адносна найлепш — вытанчаныя вершы Франука Грышкевіча). Але даскaнала перадаюць яны атмасферу жыцця ў Заходняй Беларусі і настрой беларускай інтэлігенцыі ў Польшчы ў міжваенны перыяд.

Усіх аўтараў лучыць, апрача месца паходжання, яшчэ адно: вялікі беларускі патрыятызм! Як ні дзіўна гэта гучыць сёння, калі на Сакольшчыне і духу беларускага не чуваць. І няма каму адгукнуцца на заклік Уладыслава Казлоўшчыка ў „Песьні беларускай моладзі":

*Мы бойкая моладзь — арлы маладыя,*
*За намі ідзе воля братоў.*
*У душах нашых шчырых ідэі сьвятыя,*
*А ў жылах — Крывіцкая кроў.*

*А гэтую волю, мы моладзь, здабудзем,*
*Хаця б было трэба ахвяр,*
*Хаця б было трэба вялікіх натугаў,*
*Хаця б — класьць жыцьцё на аўтар.*

Без Станіслава Грынкевіча, Франука Грышкевіча і Уладыслава Казлоўскага, як ні глядзі, карціна беларускай культуры была няпоўнай.

**Мікола Ваўранюк**

* *Вяртанне да сваіх: Станіслаў Грынкевіч, Франук Грышкевіч, Уладыслаў Казлоўшчык.* Прадмова, укладанне і каментары Сяргея Чыгрына. Выдавец: Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай. Беласток 1999.

З серыі: „Роўныя і раўнейшыя"

# Эх, дарогі...

Аказваецца, што „роўныя і раўнейшыя" могуць праявіцца нават і ў **дарожных справах**, хаця, што тут граха таіць, як у дарогах, так і ў адукацыі сялян, ды і ў іншых прыярытэтах — усё зводзіцца да грошай. А грошы найчасцей прызначаюцца сеймікам Падляшскага ваяводства менавіта „раўнейшым", бо проста іх у сейміку большасць. Галасаванне, а як жа, адбываецца па дэмакратычных прынцыпах.

На сесіі сейміка Падляшскага ваяводства, якая адбылася 23 жніўня бягучага года, управа сейміка (па просьбе ўладаў Бельскага павета) запрапанавала дарогу, якая вядзе з Тапчэва (праз Залессе і Кеўлякі) у Гадышэва, залічыць да катэгорыі ваяводскіх дарог. Радныя даказвалі, што значэнне гэтай дарогі панадваяводскае, бо служыць яна даезду да каталіцкага марыйнага санктуарыя ў Гадышэве, але стан дарогі патрабуе жадаць многага.

Як гэта так? Што, мы горшыя? — падумалі праваслаўныя радныя. Ці ж няма ў нас Святой Гары Грабаркі, таксама важнай для праваслаўнага люду, як для католікаў Ясная Гара ў Чанстахове?! А што, мо ў Грабарку дарога іншая?! Таксама павятовая. А значэнне яе, можна сказаць, нават сусветнае, бо праваслаўныя (ды і не толькі) збіраюцца тут на Спаса, бывае, з усяго свету.

Дзіва, што ваяводская дарога мае зусім іншы ранг. Намнога лепшая яе якасць, яна рамантуецца рэгулярна, яе даглядаюць, у першую чаргу ачышчаюць ад снегу.

Па ініцыятыве праваслаўных радных (і пры падтрымцы двух іншых апазіцыйных клубаў) клуб СЛД вырашыў звярнуцца з прапановай, каб і павятовую дагэтуль дарогу, якая вядзе на Святую Гару Грабарку (Машчона Панская — Сычы — Грабарка і далей: Шумілоўка — Аксютычы — Паўлавічы да дзяржаўнай дарогі Варшава — дзяржаўная граніца), таксама залічыць да ваяводскіх дарог.

Аляксандр Чуж, які высунуў прапанову наконт дарогі ў Грабарку, быў за тое, каб адразу прыняць адну пастанову ў справе дзвюх дарог. Высветлілася, што нельга гэтага зрабіць, паколькі дарогі знаходзяцца ў іншых паветах, а апрача таго, з Сямятыцкага павета ніхто пра гэта не прасіў.

Прапанову наконт дарогі да каталіцкага храма ў Гадышэве радныя сейміка Падляшскага ваяводства прынялі аднагалосна.

Калі пачалі разглядаць прапанову праваслаўных радных, адзін з радных з АВС абурыўся: што вы тут, мауляў, аргументуеце рэлігійнымі справамі, трэба глядзець на значэнне дарогі ў грамадскім жыцці! Відаць, бедалага, не знайшоў часу, каб прагляну ць матэрыялы, якія кожны радны атрымлівае раней, перад сесіяй. А там жа было напісана: „wymoszczenie drogi pątnikom".

Праваслаўныя радныя не стрымалі: А вы якімі справамі матывавалі?! Мы ідзем за вашым прыкладам.

Як ні стараліся яны, то ўсё ж такі прапанова, высунутая Аляксандрам Чужам, была раднымі адкінута. Вядома: „Як зробім дарогу на Чанстахову, дык адразу трэба рабіць дарогу на Грабарку?! Грошай нам не хопіць і часу..."

Справу ў нейкай меры рассудзіў маршал сейміка Славамір Згжыва, назваўшы гэту дыскусію „obstrukcją sejmikową". Ён падкрэсліў, што справу наконт дарогі ў Грабарку можна будзе разглядаць не толькі тады, калі сямятыцкія ўлады прышлюць неабходныя паперы. Патрэбна яшчэ згода двух міністэрстваў: абароны і транспарту. Толькі тады ўправа ваяводскага сейміка зможа падрыхтаваць адпаведную пастанову.

Праваслаўныя радныя хуценька падрыхтавалі грунтоўную матывацыю і звярнуліся да патрэбных міністэрстваў у Варшаву з просьбай дазволіць на залічэнне дарогі ў Грабарку ў катэгорыю ваяводскіх дарог. Цяпер дык нават сеймік іх падтрымаў. Чакаюць адказу. Эх, дарогі...

**Ада Чачуга**

**З апошняй хвіліны**. Ёсць чуткі з Варшавы, што справа дарогі „на добрай дарозе".

# Танцуе, спявае „Ніва"...



*Наступная ў праграме — „Ніва".*

Мечаслава Пакумейку, мастацкага кіраўніка народнага ансамбля песні і танца „Ніва" з вёскі Верцялішкі Гродзенскага раёна ведаюць на Беласточчыне — ён жа больш за год (1992-93) штосуботу, штонядзелю прыязджаў да ляўкоўскіх „Цаглінак". І добра іх успамінае, просіць ім перадаць шчырае прывітанне сёння, на гмінных дажынках у Рыбалах Заблудаўскай гміны. Адкуль ягоны ансамбль апынуўся на гэтым свяце?

— Гэта даўняя традыцыя супрацоўніцтва паміж нашым калгасам — кааператыўным прадпрыемствам „Прагрэс" з Верцялішак і кааператывам у Рыбалах, — кажа сп. Пакумейка. — Але выступаць нам тут давялося першы раз. Вядома, крышку хвалюемся, як нас тут прымуць. Спецыяльнага рэпертуару на гэтае мерапрыемства мы не рыхтавалі. За тыдзень да яго мы даведаліся, што трэба ехаць. Маем у рэпертуары беларускія песні і танцы, ёсць у нас музыкальныя нумары, харэаграфічныя кампазіцыі, усё аснована на беларускіх народных мелодыях. Калектыў наш, можна сказаць, ужо стары — летась споўнілася яму 25 гадоў. Налічвае 50 удзельнікаў (у Рыбалах нас каля 20). Мае званне народнага, пабываў у шмат якіх краінах, на розных фестывалях.

Музыканты ў „Ніве" прафесійныя, у асноўным — пасля музычных сярэдніх вучэльняў. Ёсць і выкладчыкі сярэдняй школы, ёсць навучэнцы сярэдніх навучальных устаноў, і людзі самых разнастайных прафесій. Найстарэйшы з іх — сам кіраўнік.

— Праўда, я цяпер рэдка выступаю з імі, — кажа. — Даводзіцца займацца справамі чыста тэхнічнымі, адміністрацыйнымі. Раней я шмат кампанаваў. Пісаў песні, можа не дзяржаўнага маштабу, а рэгіянальнага. Пра свой край, пра вёску, дзе жыву. Я сам з Брэсцкай вобласці. Размеркавалі мяне на працу сюды, і затрымаўся надоўга — на 30 гадоў...

„Ніва" адсвяткавала таксама дажынкі і ў сваім раёне. Паколькі ўраджай не вельмі ўдаўся па ўсёй Беларусі, дык у маштабе краіны такіх мерапрыемстваў не праводзілася — адмяніў традыцыю сам прэзідэнт.

**(лук)**

*Фота Міры Лукшы*

# Бельскія павятовыя інвестыцыі

Праўленне Бельскага павета вырашыла, што ў галіне дарожных інвестыцый у першую чаргу будуць будавацца дарогі, якія спалучаюць павятовы горад з гміннымі цэнтрамі, гмінныя мясцовасці паміж сабою, а таксама тыя, якія даходзяць да месц рэлігійнага культу, помнікаў культуры і нацыянальнай памяці. У сувязі з тым павятовыя ўлады звярнуліся да гмінных праўленняў з просьбай паскорыць перадачу ім тэхнічнай дакументацыі на прадбачаныя да рамонту адрэзкі дарог. Заключаюцца таксама дамовы паміж павятовымі і гміннымі ўладамі наконт сумеснага рамантавання камунікацыйных шляхоў.

У Арлянскай гміне прадугледжваецца выпрамленне небяспечнага павароту на дарозе са Шчытоў у Орлю. Пра неабходнасць перабудовы паварота павятовыя радныя пераканаліся падчас выязной сесіі 26 чэрвеня г.г. У выніку прынятага рашэння ўжо ацэнены ўчасткі грунту і атрымана згода на іх выкуп.

У дзвюх асветных установах нявырашанай праблемай з'яўляецца завяршэнне пабудовы спартыўных залаў. Бельскаму прафтэхвучылішчы № 2 спатрэбіцца больш за 1 млн. 300 тыс. зл., а Сельскагаспадарчай школе ў Рудцы — 800 тыс. зл.

У Павятовым шпіталі ў Бельску неабходна мадэрнізаваць вугальную кацельню на алейную. Дырэкцыя падрыхтавала ўжо дакументацыю і атрымала адпаведныя дазволы, але не можа распачаць перабудовы, бо не мае грошай. Цяпер хадайнічае яна перад цэнтральнымі ўстановамі, а пакуль што выканала дробныя рамонты ўнутры і вонкі шпітальнага будынка. Са сваіх фондаў у шпіталі была праведзена яшчэ мадэрнізацыя камп'ютэрнай сеткі і ствараецца апякунча-лячэбнае аддзяленне.

**Міхал Мінцэвіч**

# Медалі за шлюбнае жыццё



3 кастрычніка г.г. у ЗАГСе ў Гайнаўцы адбылася прыўзнятая ўрачыстасць — пяцідзесяцігоддзе шлюбу святкавалі пяць пар з Гайнаўскай гміны. Юбілярамі былі: Мікалай і Ніна Аверчукі з Дубіноў, Мікалай і Вера Ляўчукі з Хітрай, Мікалай і Анна Паскробкі з Барысаўкі, Павел і Лідзія Пчала з Дубічаў-Асочных ды Уладзімір і Анастасія Германы з Арэшкава.

Медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё", прысвоеныя прэзідэнтам РП, уручылі войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч і бурмістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк. Яны таксама павіншавалі юбіляраў і пажадалі ім многа здароўя, шчасця і поспехаў у далейшым жыцці. Ды тых пажаданняў далучыліся дзеці юбіляраў, унукі ды праўнукі.

**(гай)**

# Новае ў Міхалоўскай школе

Пачатковая школа ў Міхалове ў новым будынку працуе ўжо трэці год. Сёлета ад 1 верасня тут пачала сваю дзейнасць гімназія (памясціліе яна другім паверсе) — адзіная на ўсю гміну. Зараз тут навучаецца 700 дзяцей.

Міхалоўская ПШ мае прасторную спартзалу, да таго яшчэ з балконам для балельшчыкаў. Ад новага школьнага года мае яна сталовую і кухню. У ёй адначасова можа сталавацца 160 асоб. Пачне яна працаваць у лістападзе. **(гай)**



*— Да канца кастрычніка будова блёка будзе завершана, — кажа кіраўнік будовы Адам Сухаверскі.*

# Плануюць і робяць на вока

Выкананне інвестыцыйных планаў у гміне было тэмай пасяджэння Камісіі па справах самаўрада і камунальнай маёмасці Рады Арлянскай гміны, якое адбылося 21 верасня г.г.

У першым паўгоддзі асфальт быў пакладзены ў Шчытах- Дзенцялове і часткова ў Шчытах- Навадворах, а на гравійных дарогах з Пашкоўшчыны ў Тапчыкалы і пры чыгуначнай станцыі ў Рыгораўцах былі ліквідаваны калдобіны. Прадугледжаны быў таксама рамонт будынка гміннай амбулаторыі і на гэту мэту ў бюджэце адведзена было 45 тыс. зл. Аднак да гэтай пары рамонтнікі паправілі толькі 50 м агароджы і часткова ашалявалі ганак. Неабходна таксама прывесці ў спраўнасць печку цэнтральнага ацяплення. Радныя пастулавалі яшчэ купіць для амбулаторыі за нявыкарыстаныя грошы электракардыёграф, аднак войт прапанову адтэрмінаваў на бліжэй неакрэсленую будучыню. Плануецца яшчэ вывад з будынка амбулаторыі ў школу дантыстычнага кабінета, а на яго месцы — адкрыццё аптэкі (ужо некалькі месяцаў у Орлі аптэка не працуе).

Неспадзеўкай для радных стала інфармацыя, што кошт завяршэння будовы жылога блёка пры школе будзе большы, чым той, які вынікаў з таргоў (362 537 зл.). У сувязі з гэтым гмінным уладам прыйдзецца ашчаджаць на ўтрыманні дарог, вулічным асвятленні і браць у банках крэдыты. Гміне трэба будзе далажыць яшчэ 150 тыс. зл. Тэрмін завяршэння будовы назначаны быў на 22 снежня, але будаўнікі абяцаюць здаць блёк пад канец кастрычніка. Паводле дамовы, грошы на рахунак прадпрыемства трэба пералічыць на працягу 14 дзён пасля завяршэння прац.

— Як гэта сталася, што гміна дамаўлялася з будаўнічым прадпрыемствам на меншую суму, а прыходзіцца плаціць больш? — пытаў старшыня камісіі. — У такой сітуацыі трэба весці перагаворы наконт заплаты ў новым годзе, каб цяпер не браць крэдытаў.

Ужо некалькі разоў у гмінныя планы заносілася падключэнне водаправода ў Шчытах да арлянскага водазабора, у выніку чаго паправіцца якасць даставляемай жыхарам гэтых вёсак вады. Але і ў гэтым годзе нічога з планаў не атрымалася. Войт тлумачыўся, што на правядзенне водаправода пад рэйкамі (па якіх цягнікі ўжо некалькі гадоў не ездзяць) патрэбна згода чыгуначных улад. Радны са Шчытоў нагадаў войту, што меў ён на гэта паўгода часу, аднак нічога ў гэтай справе не зрабіў. Далей радныя папракалі войта за тое, што не прыдбаў ён гімназіі „гімбуса" і ставілі ў прыклад войта Дубіцкай гміны, які дабіўся „гімбуса" для сваёй гміны, хаця гімназіі там няма.

Амаль трохгадзінныя спрэчкі даказалі, што ўхвалены раднымі план выконваецца нядбайна, павольна і хаатычна. Тлумачэнні войта радныя ўспрымалі з абурэннем. Старшыня Рады выказаў таксама незадаволенасць самавольнымі зменяннямі інвестыцыйных планаў, без папярэдняй кансультацыі з раднымі.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Мы пляцем...

Віктар і Зінаіда Абрамовічы з калёніі Астраўкі Заблудаўскай гміны займаюцца пляценнем. Іх вырабы на гмінных дажынках у Рыбалах выклікалі зацікаўленне і захапленне публікі. Гэта былі прыгожыя, акуратна звітыя, маленькія каробачкі, ветракі, вуллі, куфэркі...

— Я пляту ад 1965 года, — кажа сп. Віктар. — Але потым вялікая паўза была. Цяпер займаюся гэтым падрад пяты год. Тавару на выстаўцы рукадзелля не паказваем шмат, бо якраз усё распрадалі.

Большасць вырабаў Абрамовічы здаюць у „Цэпэлію". Ці аплачваецца да іх рабіць?

— Аплачваецца! Таму, хто хоча рабіць, аплачваецца. Хоць і ў „Цэпэліі" сёння свае праблемы. Усё як скрозь, — ківае галавой мастак.

Каб зрабіць такую адмысловую штучку, якой можна палюбавацца, пацешыцца, пахваліцца, трэба мець умеласць у руках і разбірацца, што калі трэба рабіць. Кажа спадар Абрамовіч: усё ў сваім часе. Салому шукуецца. Трэба добры *рок*, каб яе навосень сабраць. Таксама і з лазой — усё ў сваім часе. Лазу збіраць — у маі, якраз калі сокі пушчае. Трэба час дабраць, тады будзе добры эфект тае работы, і будзе выраб выглядаць, і будзе моцны. Бо калі рабіць абы-як, то з таго нічога не будзе...

Гаспадарку Абрамовічы маюць сярэднюю.

— Робім яе таму, што любім. Гаспадарка — наша хобі, — смяюцца майстры Зінаіда і Віктар з Астравок.

**(лук)**

**Удзельнікі Агульнапольскага мэблевага пленэру ў Гайнаўцы праектавалі мэблю для невідучых дзяцей**

# Дыдактычная мэбля

У Асяродку ўзораў для дзяцей-інвалідаў у Гайнаўцы закончыўся XXIV Агульнапольскі мэблевы пленэр. Сёлета яго ўдзельнікі з Варшавы, Беластока, Гданьска і Познані праектавалі і пасля выконвалі ўзоры прадметаў штодзённага карыстання для невідучых асоб і для дзяцей са слабым зрокам. Варта адзначыць, што гэта адзіны ў Польшчы асяродак, дзе выконваюць узоры рэабілітацыйных прадметаў для карыстання калекімі асобамі. Аказваецца, што нялёгка купіць у нас мэблю і прадметы неабходныя ў жыцці інвалідаў.

Гайнаўскі Асяродак узораў выконвае рэабілітацыйныя прадметы для невідучых ужо другі год. Гэта перш-наперш рэабілітацыйныя цацкі для гульняў, дыдактычныя дапаможнікі для дзяцей дашкольнага ўзросту і школьнікам, абсталяванне святліцы, спецыяльныя сталы для працы. Вельмі часта праектанты-прафесіяналы робяць мадэлі для канкрэтных дзяцей, улічваючы іх хваробы. Яны наладжваюць супрацоўніцтва з лекарамі, псіхолагамі, педагогамі, бацькамі ды самімі інвалiднымі дзяцьмі.

Сёлета праектанты з Беластока і Гданьска прыдумалі спецыяльныя вешалкі да раздзявальні для невідучых дзяцей. Яны — штосьці вынаходлівае, чаго дагэтуль нідзе не сустрэнеш. Праектант з Познані выдумаў і ажыццявіў макет пакоя, які будзе карысны для невідучага дзіцяці, калі яно захоча хадзіць усярэдзіне дома. Беластоцкая праектантка падрыхтавала кубікі да азнаямлення з Брайлевым пісьмом і звычайнымі літарамі. Яшчэ іншы ўдзельнік пленэра запраектаваў спецыяльную шахматную дошку і спецыфічныя шахматныя пешкі. Усю мэблю і розныя прылады выконваюць з дрэва. Робяць вельмі старанна і ва універсальнай форме. Усе прадметы прыемныя ў дотыку. Заказваюць іх асяродкі для невідучых дзяцей у Дуброве-Гурнічай, Вроцлаве, у Лясках каля Варшавы, „Промень" у Гданьску, „Надзея" ў Цешыне, у Алесьніцы, Інаўроцлаве ды Авіньску каля Познані.

На папярэднім пленэры праектавалі камплекты прыладаў для маніпуляцыйных практыкаванняў, мэблю, цацкі і тэрапеўтычныя пакойчыкі, а таксама спецпляцоўку на двух узроўнях для гульняў для дзяцей на калясках.

**Янка Целушэцкі**



# Адамавы

Адам нарадзіўся ў адной падгайнаўскай вёсцы. Там правёў усё жыццё. Ажаніўся, нарадзіліся яму два сыны, Іван ды Мікола. Гаспадарку меў на ўсю вёску. Адам падумаў, што аднаго сына трэба будзе вучыць, каб пайшоў у свет, а другога пакінуць на гаспадарцы. Так і зрабіў: старэйшы сын Іван атрымаў вышэйшую адукацыю, стаў жыць у горадзе, працуючы на адказных пасадах у розных прадпрыемствах. Ажаніўся з настаўніцай. Адам быў з ягонае сям'і вельмі задаволены — жылі нябедна, згодна, нарадзілі яму трох унукаў. А малодшы брат Івана Коля пераняў бацькаву гаспадарку. Пабудаваў абшырную сучасную абору, узяўся за гадоўлю авечак.

Коля ажаніўся. Двух сыноў і дачку, што ў яго нарадзіліся, паслаў таксама вучыцца вышэй; казалі Коля з Марысяй: хай вучацца, бо ж бачаць, што, хоць бацькі стараюцца, аруць, сеюць, гадуюць, маюць столькі машын, усё ж вельмі мучацца, і ледзь зводзяць канцы на гаспадарцы.

Іван, будучы на высокай пасадзе ў адной фірме, стаў заляцацца да сакратаркі, маладзейшае ад яго на 20 гадоў. Людзі пераказалі гэта Іванавай жонцы. Але Ганна спачатку не паверыла — быў жа ж Іван вельмі добрым мужам і бацькам. Пайшла на ранейшую пенсію і стала больш займацца домам. А Іванава сакратарка зацяжарыла з ім і стала дамагацца, каб развёўся з жонкай. Ганна сказала, што разводу не дасць, але ўсё прабачыць, хай толькі Іван вернецца дадому і жыве як прыкладны муж. Іван пайшоў жыць да каханкі. Купіў на яе імя кватэру. Нарадзіла яму Люцына дзве дачкі. Жылі добра, пакуль Іван не адышоў на пенсію.

Цяпер Іван непатрэбны ні жонцы, якая не хоча яго пусціць у сваю хату, ні каханцы. І брат не хоча, каб ён да яго ехаў у вёсцы жыць ды памагаць на гаспадарцы, бо Коля з Марысяй самі з ёю спраўляюцца. Нагуляўся мястовы брат за маладыя гады!

**Мікалай Лук'янюк**

# Плаці і маўчы

[1 ☞ працяг]
ім карыстацца звычайныя грамадзяне.

Па прыкладзе цэнтральнай улады, новых крыніц прыбытку шукаюць беластоцкія камунальныя народныя дэпутаты. Прагаласавалі яны, што трэба будзе плаціць за стаянку аўтамабіляў у цэнтры горада. Выглядае на тое, што вялікую частку горада прызналі яны сваёй уласнасцю. Гадавы абанемент уладальніку легкавіка каштаваць будзе адну месячную сярэднюю зарплату. Нардэпы вырашылі таксама радыкальна павысіць цану за ваду і карыстанне камунальнай каналізацыяй. Абраннікі беластоцкага люду дайшлі да вываду, што дыеты, якія яны атрымліваюць за працу ў Радзе горада, нашмат меншыя за іхнія патрэбы. Таму жыхароў горада абдаравалі новымі падаткамі. Праўдападобна гэта яшчэ не канец іх „дэмакратычнай" творчасці. Можна, напрыклад, увесці таксама падатак ад барады ці вусоў. А можа нехта сёння памятае, аб чым гаварылі гэтыя „беластоцкія хрысціяне", калі год таму рваліся да ўлады? Праз пару гадоў зноў будуць яны нахабна паўтараць пра сваю закланочанасць лёсам простага люду.

**Яўген Мірановіч**

## Не глядзі...

*Музыка Генадзя Шэмета*
*Словы Васіля Петручука*

1. Не гля - дзі на мя - не так па - ну - ра, Бо са - ма ві - на - ва - та ўся - му. Я ка - хаў ця - бе сэр - цам ду - шо - ю, а ты ру - ку ад - да - ла я - му. Мы з та - бой су - стра - ка - лі - ся бо - са, ка - лі луг се - ра - бры - ла ра - са. На - шы но - гі пя - кла ха - ла - дне - ча, а - ле ўсю - ды лу - на - ла кра - са. Гэ - ту пек - насць мы ра - зам дзя - лі - лі, За - гля - да - ю - чы ў во - чы са - бе: да мя - не ты ля - гень - ка ту - лі - лась, я ад - да - на па - ве - рыў та - бе. Гэ - ту 2. Мы заў

Не глядзі на мяне так панура,
Бо сама вінавата ўсяму.
Я кахаў цябе сэрцам-душою,
А ты руку аддала яму.

Мы з табой сустракаліся боса,
Калі луг серабрыла раса,
Нашы ногі пякла халаднеча,
Але ўсюды лунала краса.

Прыпеў:
Гэту пекнасць мы разам дзялілі
Заглядаючы ў вочы сабе:
Да мяне ты ляґенька тулілась,
Я аддана паверыў табе.

Мы заўсёды былі ўсюды разам,
Аж пайшоў я у войска служыць.
Ты любоў на багацце змяніла,
Адышла з некаханым тужыць.

Не пара ўжо цяпер гараваці,
Бо не вернеш любоўных спакус.
Я не ў сілах расстання забыці,
Слёзных слоў, гэтак здрадлівых вусн.

Прыпеў:
Гэту пекнасць мы разам дзялілі...

# Помнікі мінулага

Грамадскія пачыны былі моднымі пры камуне. Грамадства на кожны кліч партыі выходзіла будаваць дарогі, школы, святліцы, крамы і пажарныя дэпо, паколькі верыла, што гэта робіцца для дабра супольнай справы.

Для ўвекавечання гэтых падзей ставіліся помнікі. Такія два я прыкмеціў на тэрыторыі Кляшчэлеўскай гміны.

На абеліску, які стаіць зараз за горадам на скрыжаванні дарог ў Гайнаўку і Бельск-Падляшскі знаходзіцца надпіс: „Wysiłkiem chłopów i robotników, inteligencji pracującej i młodzieży powiatu hajnowskiego droga Hajnówka — Kleszczele została wybudowana w roku 1955 czynem społecznym".

Чыгуначыны прыпынак у Сухавольцах гэта таксама плён грамадскай працы жыхароў навакольных вёсак у васьмідзесятых гадах. Будуючы гэтыя аб'екты грамадства лічыла, што яны будуць служыць многім пакаленням. Рэчаіснасць гэтаму запярэчыла. Напрыклад, чыгуначны прыпынак у Сухавольцах — адна руіна. Вандалы адважыліся нават разбурыць трансфарматар, каб прадаць каляровы метал на лом, а падарожных прытым пазбавілі электрычнага асвятлення.

Што тады чакае абеліск за Кляшчэлямі? Няўжо і ён каму спатрэбіцца?

**Уладзімір Сідарук**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Сніцца мне, што мой бацька мае кудысьці ехаць. Быццам я яшчэ незамужняя, жыву ў бацькоўскім доме, у горадзе. Вось-вось ужо будзе цягнік, якім бацька паедзе, а яго яшчэ няма дома. Што рабіць? Ён жа спозніцца. Я хапаю падрыхтаваную ўжо бацькаву сумку і еду з ёю на вакзал. Мо ён туды адразу паедзе... Хачу яму дапамагчы, каб было хутчэй.

Прыязджаю на вакзал. Цягнік ужо стаіць. Усяго некалькі вагонаў, быццам прыгарадні, але я ведаю, што бацька мае ехаць кудысьці далёка. Я ўваходжу з той сумкай у адзін з вагонаў. Шукаю бацьку, але яго яшчэ няма. Знерваваная, я выходжу з цягніка. Стаю на пероне, сумная.

Раптам бачу, што з будынка вакзала на перон уваходзіць мой бацька. Яшчэ зусім малады, статны. Арануты ён элегантна: у чорным касцюме, белай кашулі і зялёным плашчы з поясам. Бацька ўбачыў мяне і накіроўваецца да цягніка, каля якога я стаю і чакаю яго. Ён падыходзіць да мяне, бярэ ў мяне з рук сваю сумку і мы разам зноў уваходзім у той жа вагон, у якім ужо я была. Але тут паяўляецца кандуктар і гаворыць, што ўжо няма свабодных месц. І мы з бацькам выходзім на перон. Мне крыўдна, што бацька не можа ехаць. На гэтым я прачнулася. Ага, у іншым вагоне мы для бацькі месца не шукалі (я яго толькі праводзіла). Што мяне чакае?

**Альжбета**

Альжбета! Вядома, твой сон нядобры. Бацьку сніць — ясная справа, што будзеш мець нейкія клопаты. Не магу табе канкрэтна сказаць, якога роду гэта будзе клопат, але ўся сітуацыя гаворыць за тое, што будзе ён не малы. Справа ў тым, што большасць акцыі сну адбывалася на вакзале, а перад тваімі вачыма стаяў цягнік. Цягнік папярэджвае цябе, што пагражае табе небяспека. Можа, гэта будзе хвароба, а можа і іншая небяспечная справа вынікне. У кожным выпадку раю табе быць асцярожнай і ўважлівай. Тады кантроль сітуацыі будзе ў тваіх руках.

**Астрон**

# Лепшыя дарогі

Асфальтаваныя дарогі з'яўляюцца неадлучнай часткай сучаснага пейзажу. У гміне Нараўка кожны год некалькі кіламетраў дарог заліваюць асфальтам. Згодна з павятовым і гмінным планамі ў бягучым годзе завершана асфальтаванне дарогі з Альхоўкі ў Семяноўку. Жыхары Альхоўкі здаўна дамагаліся паляпшэння вуліцы, якая вядзе ў напрамку пушчы і прыгранічнага Масева. У спякотнае лета, калі ехаў аўтобус ці грузавік з драўнінай, заўсёды тут падымалася ў паветра хмара пылу ды ападала людзям на галовы. У мокрую восень ці веснавыя растопы гравейка „сядала" і аўтобусы не маглі праехаць да Масева.

Восенню, а дакладней у верасні, пачалася перабудова вуліцы ў Альхоўцы. У першых днях кастрычніка з'явілася дарожная фірма з Бельска і палажыла асфальт. Вясковая вуліца стала цвёрдай і гладкай. Жыхары Альхоўкі дзякуюць мясцоваму самаўраду за дапамогу, а масеўцы спадзяюцца, што ў наступным годзе і яны атрымаюць асфальтаванае спалучэнне са светам.

**Мікалай Варанецкі**

# Гайнаўскай Гарадской бібліятэцы — 50

Сёлета Гарадская публічная бібліятэка (ГПБ) у Гайнаўцы святкуе 50-годдзе свайго існавання. Мае яна сучаснае абсталяванне. У 1991 годзе ў бібліятэку купілі камп'ютэры. У ёй заснавалі аддзяленне спецыяльных збораў, камплектуюць, між іншым, газеты і часопісы, у тым ліку і тыднёвік „Ніва" ды паасобныя артыкулы пра гісторыю Гайнаўкі ды ўсяе Гайнаўшчыны, а таксама Белавежскай пушчы.

ГПБ мае вялікі збор архіўных здымкаў ды карт. Фатаграфіі і рысункі (м.інш. мастака Віктара Кабаца з Гайнаўкі) адлюстроўваюць архітэктуру старых дамоў і іншых аб'ектаў. У калекцыі шмат партрэтаў славутых жыхароў гэтага пушчанскага горада.

Зараз гайнаўская Гарадская публічная бібліятэка мае 75-тысячны кнігазбор і каля 6 тысяч чытачоў. У чытальні для дарослых пастаянна арганізоўваюць фатаграфічныя мастацкія выстаўкі, а таксама аўтарскія сустрэчы.

16 кастрычніка ў кіназале Беларускага музея ў Гайнаўцы адбылося ўрачыстае святкаванне юбілею бібліятэкі.

**(гай)**

# Вяртанне маёмасці

У сродках масавай інфармацыі паведамляецца, што парламент і ўрад згодны ў тым, каб колішнім уладальнікам вярнуць іхнюю маёмасць — фабрыкі, камяніцы, лясы. Добра, хай аддаюць, але нельга плаціць ім грашовую кампенсацыю, бо ў дзяржаўнай касе зусім пуста — хоць шаром пакаці! Баюся, каб кампенсацыю не прыйшлося плаціць нам, звычайным грамадзянам, з нашых падаткаў. Чаму я павінен плаціць, калі я ў нацыяналізацыі іхняй маёмасці не вінаваты? Няхай такі капіталіст бярэ свой дом ці фабрыку на ўласнасць, няхай карыстаецца ёю і плаціць дзяржаве падаткі. Тады казна будзе мець даход, бо цяпер не стае ёй грошай для аховы здароўя і настаўнікаў. Па гэтай прычыне пратэстуюць работнікі многіх галін гаспадаркі. Толькі трымаючыя ўладу ўрад і Касцёл не бастуюць.

**Дзядзька Захар**




**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

*Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 2000 r. upływa 5 grudnia 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 19,50 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 39,45; pocztą lotniczą Europa — 48,05; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 65,05. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,60 zł, a kwartalnie — 33,80 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




*Ветліва падказваем, што аўтобус ехаў адною і тою ж дарогай.*

## *Галерэйка паўшэхнага ідыёцтва*

**(даслаў Мікалай Лук'янюк)**

Фрашкі пра нашых

### *Белая муза Вандала*

Найбольш я вершаў напісаў у амбулаторыях,
У *пшыходнях*, як кажуць у народзе.
Быў час пачуць на прыктыцы і ў тэорыі,
Якія то ідэі сёння ў модзе.
І чхалі, і смаркалі мне у сшытак,
Стагналі, квэнкалі збалелыя людкове.
А я пісаў, не слухаючы бытта,
Хваробаў пераклад рабіў на мову.
Знямогі розныя, грамадскія балячкі
Адчуў на ўласнай скуры, на гарбе я.
Усё перажыў я, ад *чырвонкі* да жаўтачкі.
Ды, дзякуй Богу, не глухі я й не нямею.

**Вандал Арлянскі**

# *Крыжаванка*



**Вертыкальна:** 1. штаны, якія аблягаюць калені і расшыраюцца ўгару, 2. горад у Босніі, 4. руда з сярністых мінералаў, 5. выява, праява, 6. невялікі вадзяны паток, 7. шаўковая тканіна з бліскучым правым бокам, 12. соль сернай кіслаты, 14. Аляксандр, дзеяч расейскай партыі эсэраў (1881-1970), 16. аргенцінская правінцыя, якая мяжуе з Парагваем, 17. расліна з прыгожымі кветкамі і шыпамі, 18. парыжская рака, 19. рыбны адвар, 21. горад у Харватыі, 24. невялікі жылы дом у прыгарадзе, 25. прагал у тэксце, 26. Янаш, венгерскі палітык (1912-89), 27. тоўстая вяроўка, 28. брус у ніжняй частцы дзвярнога праёму.

**Гарызантальна:** 3. укрыццё для стральбы, 8. можа быць указальны, безыменны..., 9. прадмет адзення для ног, 10. гліняная пасудзіна з выпуклымі бакамі і вузкім горлам, 11. ядомы плод фінікавай пальмы, 13. нагода, 15. вялікі майстар сваёй справы, 16. косці цвёрдай асновы галавы, 20. верш, у якім пачатковыя літары радкоў складаюць якое-небудзь слова або фразу, 22. мех аўчыны, 23. каменная гара з крутымі схіламі, 27. маленькая капля, 29. невялікі вузкі ўчастак ворнай зямлі сялянскага надзелу, 30. выспа Адысея, 31. Рычард, англамоўны паўднёваафрыканскі пісьменнік (нар. у 1931 г.), 32. архітэктурны стыль 18. стагоддзя, 33. горад на поўдні Турцыі, 34. запруда.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 37 нумара**

**Гарызантальна:** махляр, мадэра, касцяк, віка, корт, правансаль, слон, цаля, смецце, акурак, лапата.

**Вертыкальна:** Малаві, ярка, маяк, рапарт, сцяганосец, капрон, кольца, сляпак, лянота, смак, цела.

Рашэнне: **Сцяпан Копа**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Вользе Дземяновіч** з Варшавы і **Надзеі Сцяпанавай** з Віцебска.

# *Пра сена*

За гарамі, за лясамі ад трыдзевяці зямель жылі-былі два суб'екты: Эся і Юка. На выгляд яны розніліся між сабою і можна было б несрактыкавана сказаць, што гэта два ўзаемна чужыя асобені. Аднак было гэта толькі зманлівае ўражанне, бо калі хто да іх уважліва прыгледзеўся, адразу заўважаў, што паміж імі існуе нават не тэлепатычная, а цалкам генетычная сувязь. Яны, як у люстэрку, адлюстроўваліся ўзаемна: калі, напрыклад, адзін з іх падымаў правую руку, другі ў той жа момант падымаў левую. І наадварот.

Абодва суб'екты займаліся публічнай дзейнасцю, аднак не рабілі гэтага самастойна, толькі ў тое дзеянне прыводзілі іх розныя прыводы. Можна нават сказаць, што былі яны адно толькі мышцамі, якія прыводзіліся ў дзеянне з выключэннем іх свядомасці. Другімі словамі: былі яны падобныя нават не на чорнарабочых, а хутчэй на зомбі, коней або валоў. Эся быў у той шчаслівай сітуацыі, што яго прывод быў даволі зладжаны і мэтанакіраваны. Прывод жа Юкі быў расцярушаны. Свайму прыводу Юка быў у сапраўднасці непатрэбны, аднак прывод трымаў яго ў якасці перакладнога каня — на ўсялякі выпадак. Здаралася, што прывод пытаў часам свайго аб'екта-суб'екта:

— А што там, сынок, у палітыцы?

У адказ Юка падаў перад сваім прыводам на калені і гэтая евангельская пакорлівасць вельмі падабалася сотням тысяч ягонага хрысціянскага электарату. У Эсі справа выглядала па-другому: ягоны электарат лічыў толькі некалькі соцень, але, праўду кажучы, і гэтая колькасць была лішняя. А справа ў тым, што ягоная экзатычная краіна лічылася спадкаемцам рымскай цывілізацыі, дзе імператар мог на публічную дзейнасць назначыць нават каня, што ў аспекце прызначанай Эсю ролі выглядала цалкам лагічна. Дарэчы, рымскае слова *сенат* і выводзіцца мабыць ад сена, бо ж не адным аброкам жыве конь.

Не за гарамі той час, калі на публічную дзейнасць назначаліся мужыкі, бабы або працоўныя інтэлігенты, якіх можна было ахарактарызаваць нейкай публічнай актыўнасцю. Сёння тая актыўнасць перастала іграць ролю рашаючага фактара, хаця нейкая атавістычная інерцыя ад старое звычкі яшчэ асталася. Юка запісаўся нават у нейкую партыю і, хаця тая партыя спыніла свой практычны быт, ён паслядоўна належаў да яе далей, хаця гэта было ягонаму прыводу да нічога непатрэбным. Эся ж, у сваю чаргу, пакольні не займаўся палітыкай, прыкідваўся асветніцкай дзейнасцю: заклапочваўся ён пра навучанне, пра школы значыць. Простанароддзю школы могуць асацыявацца з навучаннем чытанню і пісанню, аднак Эся не быў простаілюдзінам, толькі асобай адукаванай і таму на навучанне ён глядзеў крыху інакш. Эся вельмі клапаціўся, каб навучэнцы былі свядомыя, што *шчасця больш у нас, чым на небе зор* і каб адначасна не мелі яны куды пісаць і што чытаць бо ж і ён сам нічога пра сябе добрага не мог дачытацца; з аглядкай на яго задзейнічаў і Юка. Змагаючыся за адукацыю Эся дабіўся нават нейкіх *паводзін*, бо лік фірмаваных ім навучэнцаў пастаянна меншаў. Здавалася б, што маем дачыненне з парадоксам, аднак ніякі парадокс тут не выступае, бо ж — на конскі розум — дзеля чаго патрэбная нейкая адукацыя, калі ў сёняшні экзатычны час крыніцай усялякага дастатку з'яўляюцца адно адпаведна прыведзеныя мускулы.

**Адам Маньяк**

# *„Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка*

Гутараць два сябры:

— Не ведаю, што купіць жонцы пад ёлку.

— Навошта турбуешся? Спытай яе, што яна хоча.

— Чалавеча, я не маю столькі грошай!

* * *

Сямідзесяцігадовы мужчына ажаніўся з васемнаццацігадоваю дзяўчынаю, чым задзівіў старога сябра:

— Ну, не спадзяваўся я гэтага па табе! Але як жа будзе далей? Яна ж, пэўна, маладая, захоча мець дзіця, а ты што на гэта? Добра табе раю: вазьмі на штат сакратара — ён усё аформіць так як трэба...

Сустракаюцца яны зноў пасля шасці месяцаў:

— Ну і як складваецца табе ў сужонстве?

— Выдатна: жонка зацяжарыла...

— Цудоўна; а сакратар?

— Дзякую, яна таксама зацяжарыла.

* * *

— Хто такія язычнікі?

— Гэта такія людзі, якія не вядуць рэлігійных спрэчак.

* * *

— Адведай нас у суботу.

— Не магу, бо Метэк мае канцэрт.

— То можа ў нядзелю?

— У нядзелю таксама мае канцэрт.

— Ад калі ты зрабіўся такім меламанам?

— Я не цярплю музыкі, толькі я магу наведваць Меткаву жонку, калі ён на канцэрце.

Усур'ёз ды бясплатна

## *Сяброўскія аб'явы, віншаванні, etc.*

✉ Мне 16 гадоў і я паступіў у аўтамеханічны каледж. Слухаю „НРМ", „Нірвану" і іншыя рок-гурты. Акрамя беларускай ведаю таксама рускую і англійскую мовы. Хачу перапісвацца з цікавымі людзьмі з Польшчы. **Дзяніс Падута, пр-т Будаўнікоў 26/77, 213807 Бабруйск, Беларусь.**

☹ Ветліва паведамляем, што ў Слоніме ні Жана Феліксавіча, ні гарэлкі „Сикорский" ужо няма...

